# ЗЬМЕСТ

## тэма



## de facto



## інфарматар



## край



## бюлетэнь



## сьвет



## кансультацыя






КАНТАКТЫ:
А/с 82, 220030, Менск-30, БЕЛАРУСЬ
тэл. (017) 225 51 10
факс (017) 206 59 09
ngo@user.unibel.by
www.ngo.unibel.by



Наклад 299 асобнікаў.
Распаўсюджваецца бясплатна.





Дызайн: Аляксей Чарняеў

# Чым ёсьць МІСІЯ і чаму гэта важна для вашай грамадзкай арганізацыі?

Ала Кос,
**кансультант ABA/CEELI па пытаньнях разьвіцьця арганізацыяў**
**alla_kos@ceeli.org.by**

**Калі-кольвек прыйдзіце ў любую грамадзкую арганізацыю і папрасіце ў супрацоўнікаў сфармуляваць місію сваёй арганізацыі. У большасьці выпадкаў у адказ вы пачуеце доўгае і няўцямнае пералічэньне накірункаў дзейнасьці ГА ці будзеце зьдзіўляцца ад розных варыянтаў адказаў на адно і тое ж пытаньне. На жаль, нават кіраўнікі арганізацыі не заўжды здольныя зразумела і канкрэтна патлумачыць, для чаго існуе іх арганізацыя. У такім выпадку як гэтыя людзі могуць уяўляць і эфэктыўна прасоўваць інтарэсы арганізацыі, прасіць аб ахвяраваньнях? Для некамэрцыйнай арганізацыі задача вызначэньня і фармулёўкі місіі ёсьць вельмі складанай. У агульным кантэксьце функцыянаваньня і разьвіцьця арганізацыі фармуляваньне місіі па сутнасьці роўнае адказу на пытаньне пра сэнс яе дзейнасьці.**

Такім чынам, місія — гэта галоўная агульная мэта арганізацыі, прычына і сэнс яе існаваньня. Місія тлумачыць грамадзкасьці і сябрам арганізацыі, навошта (у імя чаго) існуе арганізацыя, што яна зьбіраецца рабіць, якім чынам і для каго. Місія — галоўны арыентыр для руху на некалькі год наперад. Зыходзячы зь місіі і дзеля яе ажыцьцяўленьня выпрацоўваюцца мэты дзейнасьці арганізацыі, якія выступаюць у якасьці крытэрыяў для ўсяго будучага працэсу прыняцьця кіраўнічых рашэньняў. Кожны праект, за выкананьне якога бярэцца вашая арганізацыя, павінен спрыяць выкананьню місіі. Акрамя таго, місія базуецца на бачаньні і каштоўнасьцях арганізацыі.

Фармулёўка місіі павінна быць простай і такой, каб сябры Рады (Кіраўніцтва), супрацоўнікі (сябры арганізацыі) і валянтэры маглі б яе лёгка запомніць і рэпрэзэнтаваць, а таксама выкарыстоўваць для лябіяваньня інтарэсаў арганізацыі. З фармулёўкі місіі мусіць быць зразумела, якія патрэбы вашых кліентаў яна задавальняе і якім чынам. Для заходніх камэрцыйных і некамэрцыйных структураў наяўнасьць місіі досыць даўно зьяўляецца “добрым тонам”. Распрацоўка і ўдакладненьне місіі — пачатковая кропка любога ўдасканаленьня сыстэмы кіраваньня ці арганізацыі цалкам.

### ВЫЗНАЧЭНЬНЕ МІСІІ

Прывяду некалькі вызначэньняў місіі, якія сьцісла адлюстроўваюць ня толькі сам панятак, але і асноўныя яе прыкметы як дакумэнту.

Місія — якасна выражаная сукупнасьць асноўных мэтаў арганізацыі. У фармалізаваным выглядзе ўяўляе сабой дакумэнт, у якім зьмяшчаецца апісаньне існуючых цяпер ці пажаданых характарыстыкаў і мэтавых парамэтраў арганізацыі” (“Словарь библиотекаря по менеджменту и маркетингу”).

Згодна з вызначэньнем амэрыканскага дасьледчыка J. A. Pearce, місія арганізацыі — гэта “шырокая па форме, але такая фармулёўка мэты, якая не дапускае адвольных трактовак, вылучае арганізацыю з шэрагу іншых такога ж кшталту і ідэнтыфікуе сфэру яе дзеяньняў у кантэксьце канчатковага праекту. Місія ня толькі ўвасабляе філязофію прыняцьця стратэгічных рашэньняў — яна таксама раскрывае той імідж, які арганізацыя хацела б набыць, адлюстроўвае яе сьвядомасьць і паказвае на кола яе асноўных прадуктаў і паслугаў; акрамя таго, на асноўныя патрэбы спажыўца, што арганізацыя імкнецца задаволіць. Фармулюючы сьцісла, місія апісвае прадукт, паслугі і рынак арганізацыі, а таксама яе тэхналёгію такім чынам, каб адлюстраваць каштоўнасьці і прыярытэты асобаў, што прымаюць у арганізацыі стратэгічныя рашэньні”.



Фармулёўка місіі — гэта дакумэнт, абсалютна праўдзівы па зьмесьце, ён крыху ідэалізуе магчымасьці арганізацыі за кошт выкарыстаньня адпаведнага стылю. Аднак ідэалізуючы роўна на столькі, каб спажыўцы паслугаў не адчувалі скептыцызму пры параўнаньні рэальных магчымасьцяў арганізацыі з дэкляраванымі ў місіі, і роўна на столькі, каб супрацоўнікі (сябры) арганізацыі бачылі ў фармулёўцы місіі дасягальную пэрспэктыву ўдасканаленьня працы і эмацыйны стымул для гэтага.

### ПРЫКЛАДЫ ФАРМУЛЁВАК МІСІІ:

**Місія Луганскай абласной групы мэдыяцыі (ЛАГМ)** заключаецца ў гарманічным разьвіцьці чалавека, грамадзтва і сьвету шляхам асьветніцкай, навукова-дасьледчай дзейнасьці і кваліфікаванага вырашэньня канфліктаў пры задавальненьні духоўных і матэрыяльных патрэбаў яе супрацоўнікаў.

**Місія Utel:** Мы як вядучая кампанія, што прадастаўляе паслугі міжгародняй і міжнароднай сувязі на Ўкраіне,

— Забясьпечваем людзям магчымасьць лёгкіх зносінаў паміж сабой;

— Дасягаем такіх фінансавых вынікаў, якія задавальняюць нашых акцыянэраў;
— Забясьпечваем супрацоўнікам умовы для творчай і пэрспэктыўнай працы, што спрыяе іх прафэсійнаму росту.

**Стратэгія Utel:** мы зьдзяйсьняем гэта праз
— Удасканаленьне лініі тэлекамунікацыяў на Ўкраіне;
— Прадастаўленьне паслугаў высокай якасьці на аснове прасунутых тэхналёгіяў;
— Пашырэньне супрацоўніцтва зь іншымі апэратарамі міжнароднай сувязі;
— Удасканаленьне супрацоўніцтва зь іншымі тэлекамунікацыйнымі кампаніямі на Ўкраіне.

**Нашыя каштоўнасьці:**
Мы верым у
— Павагу да людзей;
— Абгрунтаваную рызыку;
— Пэрсанальную адказнасьць;
— Эфэктыўнасьць працы ў адной камандзе.

Апошні прыклад дэманструе, што місія, стратэгія і каштоўнасьці ўзаемазьвязаныя паміж сабой.

### ПРЫКМЕТЫ "ІДЭАЛЬНАЙ" МІСІІ

Што павінна зьмяшчаць фармулёўка місіі? Якія яе асноўныя кампанэнты?

Адзінага ўзору фармулёўкі не існуе. Яны розьняцца мовай, стылем, памерамі і іншымі зьнешнімі характарыстыкамі. Іншым разам арганізацыі імкнуцца выразіць у сваёй місіі ня толькі хто яны, што яны робяць і чаму яны гэта робяць, але і пасьля сьціслай фармулёўкі на некалькіх старонках даюць дэталёвае апісаньне місіі, бачаньня і асноўных прынцыпаў дзейнасьці. Гэта зусім не азначае, што менавіта такі падыход зьяўляецца "правільным" для арганізацыі. Самае важнае ў вашай фармулёўцы місіі тое, што яна павінна быць вядомай і зразумелай сябрам Рады, супрацоўнікам, валянтэрам, донарам, кліентам і іншым зацікаўленым групам, а таксама мусіць актыўна падтрымлівацца імі.

**Па меркаваньні экспэртаў, у фармулёўку місіі павінны быць уключаныя наступныя элемэнты:**

*— Канчатковая мэта (вынік), альбо* ***куды*** *рухаецца арганізацыя.*

Фармулёўка мэты арганізацыі павінна ясна тлумачыць, чаго вы зьбіраецеся дасягнуць, якім вы бачыце канчатковы вынік вашай працы. У вызначэньні мэты важна сканцэнтраваць увагу на непасрэдных дасягненьнях: як зьменіцца зьнешні сьвет у выніку працы вашай арганізацыі? Што канкрэтна зьменіцца?

*— Дзейнасьць, з дапамогай якой вы дасягаеце мэты, ці дзякуючы чаму гэты рух адбываецца.*

Звычайна выкарыстоўваюцца словы: "з дапамогай", "шляхам", "праз", "дзякуючы".

*— Каштоўнасьці, ці за кошт якіх унутраных асаблівасьцяў.*

Чым вы кіруецеся ў сваёй працы? Што для вас зьяўляецца найбольш важным? Ад чаго вы не адмовіцеся ні пры якіх умовах? Што для вас галоўная прыкмета высокай якасьці паслугаў, добрай працы? Калі-некалі гэты кампанэнт місіі (ці асобны дакумэнт, які можа суправаджаць місію) называюць філязофіяй, альбо крэда арганізацыі. Крэда адлюстроўвае асноўныя пастуляты веры арганізацыі і яе памкненьні. У ідэале фармулёўка місіі павінна вынікаць з каштоўнасьцяў і пастулятаў веры, якія ўжо існуюць у арганізацыі.

Акрамя гэтых асноўных кампанэнтаў, у фармулёўцы вы можаце адлюстраваць наступныя пытаньні:
— Якую *праблему* спрабуе вырашыць вашая арганізацыя альбо якія патрэбы яна мусіць задаволіць?
— У чым *унікальнасьць* вашай арганізацыі?
— Хто зьяўляецца *спажыўцом паслугаў* вашай арганізацыі?

Важны момант для стварэньня эфэктыўнай місіі — неабходнасьць уключэньня ў яе такіх *установак, якія адлюстроўваюць чаканьні грамадзкасьці*. Гэта неабходна для таго, каб адпаведнае грамадзкае меркаваньне забясьпечвала падтрымку мэтаў арганізацыі, а фармулёўка місіі насамрэч зьяўлялася і сродкам фармаваньня іміджу арганізацыі.

Передумовай стварэньня добрай місіі зьяўляецца *адлюстраваньне высокай увагі арганізацыі да якасьці сваёй працы*.

Усё вышэйпададзенае — ідэалізаванае ўяўленьне пра фармулёўку. У рэчаіснасьці складана знайсьці прымальную па аб'ёме і стылі фармулёўку, у якой прытрымліваліся б усіх названых рэкамэндацыяў. Акрамя таго, каб скласьці эфэктыўную фармулёўку місіі, кіраўнікі і супрацоўнікі павінны выкарыстоўваць і асабістыя ўяўленьні пра тое, на што мусіць быць падобная місія іх арганізацыі.

Гэтыя абагульненыя рэкамэндацыі могуць падацца максымалістычнымі, але яны арыентуюць аўтараў будучых місіяў на самую сур'ёзную працу і будуць карыснымі ў практычнай дзейнасьці.

### КРОКІ ДА НАПІСАНЬНЯ ФАРМУЛЁЎКІ МІСІІ

Няма адзінай формулы, што дапамагла б знайсьці правільныя і патрэбныя словы для таго, каб найлепшым чынам выразіць калектыўныя памкненьні вашай арганізацыі. Фармулёўка місіі можа быць створаная спачатку адным чалавекам ці адразу пасьля прапановаў, агучаных падчас мерапрыемства па стратэгічным плянаваньні для лідэраў арганізацыяў. Самае галоўнае ў працэсе распрацоўкі місіі — гэта дасягненьне кансэнсусу ў адказах на зададзеныя пытаньні.

Іншы варыянт — гэта абмеркаваць пытаньні, неабходныя для фармулёўкі місіі падчас паседжаньня Рады (Кіраўніцтва) і высьветліць галіны згоды і нязгоды (напрыклад, па якіх пытаньнях адрознасьць меркаваньняў найбольшая — мэтавыя групы, патрэбы ці спосабы іх задавальненьня). Карысьць ад самога працэсу абмеркаваньня місіі ў тым, што падчас спрэчак і дыскусіяў новыя сябры арганізацыі даведаюцца пра нюансы місіі арганізацыі і зьмяненьні ў навакольным асяродзьдзі, а старыя сябры арганізацыі асьвяжаць гэтыя дэталі ў памяці. У выніку група атрымлівае ўпэўненасьць у тым, што фармулёўка місіі, якая зьявіцца (ці гэта будзе новая фармулёўка, ці перагляд старой), сапраўды ёсьць сукупнасьцю ідэяў і меркаваньняў сябраў арганізацыі.

Праца ў групах у большасьці выпадкаў пады-

ходзіць. Аднак мэтазгодна арганізаваць абмеркаваньне ідэяў і канцэпцыяў у групах, а потым даручыць некалькім сябрам апрацаваць вынікі дыскусіяў і рупліва сфармуляваць канчатковы варыянт, перш чым высоўваць якую-небудзь вэрсію на далейшае абмеркаваньне. Вельмі важна, каб фармулёўка місіі была распаўсюджаная сярод сябраў Рады, супрацоўнікаў і іншых зацікаўленых асобаў нават не адзін, а некалькі разоў. Часам некаторыя кансультанты раяць арганізацыям таксама зьвяртацца да асобаў, што незнаёмыя зь іх дзейнасьцю, каб даведацца, ці зразумелая фармулёўка.

**Амэрыканскія аўтары раяць наступныя этапы працы па стварэньні місіі:**

— Першы крок: сабраць як мага больш інфармацыі пра арганізацыю і яе мэты. У ідэале гэта ня толькі разгляд дакумэнтаў і плянаў арганізацыі, але таксама пошук рэальнага і асэнсаванага ўнёску з боку яе супрацоўнікаў.

— Другі крок: складаньне “чарнавога” накіду фармулёўкі місіі.

— Трэці крок: збор меркаваньняў і водгукаў аб гэтым праекце як вышэйшага кіраўніцтва, так і працаўнікоў “нізавога” ўзроўню.

— Чацьверты крок: выпраўленьне фармулёўкі місіі, што тычыцца ня толькі мовы, але і формы, агульнай ідэі.

— Пяты крок: зацьвярджэньне і падтрымка місіі кіраўніцтвам. Фармулёўка місіі павінна выкарыстоўвацца ў практычнай дзейнасьці, таму вельмі важна, каб кіраўніцтва падтрымлівала фармулёўку і брала ўдзел у складаньні яе праекту.

Існуюць таксама **дадатковыя правілы/парады** для ўсіх пяці этапаў:

— не выкарыстоўваць жаргон;

— пазьбягаць цьмяных і расплывістых фармулёвак;

— не карыстацца надта складанай мовай;

— пажадана імкнуцца да сьцісласьці (кароткая і простая фармулёўка місіі робіць яе зразумелай і простай для запамінаньня);

— фармулёўка місіі павінна быць гнуткай (што зробіць яе больш даўгавечнай і прыстасаванай да новых абставінаў) і адрознай ад місіі іншых арганізацыяў такога накірунку;

— місія павінна вызначаць асноўны кірунак дзейнасьці і ня мусіць ідэнтыфікаваць канкрэтных мэтаў і дзеяньняў па іх дасягненьні;

— вы самі павінны верыць у зьмест сваёй фармулёкі місіі, інакш і ўсе астатнія будуць успрымаць яе як ману;

— місія павінна быць вызначаная такім чынам, каб падштурхоўваць людзей да актыўных дзеяньняў, натхняць і мабілізоўваць іх для дасягненьня мэтаў;

— пры зацьвярджэньні місіі неабходна даць наказ супрацоўнікам арганізацыі, вырашыць пытаньне пра шляхі распаўсюду тэксту місіі і яе вывучэньня;

— шырока выкарыстоўвайце місію ў буклетах, на плякатах, у некаторых дакумэнтах.

Прапаную вам выканаць наступнае **практыкаваньне — “Апісаньне місіі”** (адаптавана па матэрыялах Support Center for Nonprofit Management), для таго, каб стварыць сваю місію:

1. Дзеля вырашэньня якой *асноўнай праблемы* існуе нашая арганізацыя? Дзеля задавальненьня якіх *патрэбаў* існуе нашая арганізацыя? (Пры абмеркаваньні асноўнай праблемы ці патрэбы вы можаце разгледзець наступныя пытаньні: “Каго закранае праблема? Якім чынам?”) Апішыце, як палепшыўся ці зьмяніўся б навакольны сьвет, калі б вашая арганізацыя пасьпяхова працавала над вырашэньнем праблемы ці задавальненьнем патрэбы.

2. У чым прызначэньне нашай арганізацыі (адказваем на пытаньне, навошта мы існуем, а не што мы робім)? Гэта кароткае апісаньне канчатковых вынікаў, якіх мы спадзяемся дасягнуць. Паспрабуйце апісаць зыходныя вынікі, што зьяўляюцца вашай місіяй (напрыклад, ліквідаваць бяздомнасьць), а ня мэтады іх дасягненьня (напрыклад, шляхам будаўніцтва дамоў).

3. Чым мы займаемся? Апішыце сваю дзей-

д а в е д к а

# МІСІЯ Ў БІЗНЭСЕ

**Тэндэнцыяй сучаснага мэнэджмэнту зьяўляецца збліжэньне арганізацыйных падыходаў у бізнэсе і ў публічнай, грамадзкай сфэры. Мяркуйце самі: маркетынгавы падыход зрабіў вялікі крок за межы бізнэсу. Нават такі традыцыйны інстытут, як царква, адчувае яго ўплыў. Арыентацыя на задавальненьне чаканьняў і патрэбаў кліентаў арганізацыі (кліент-арыентаваны падыход) стала агульнай. Тэрміналёгія “PR”, “імідж”, “мэтавая група”, “прасоўваньне” (неістотна — тавараў ці ідэяў, каштоўнасьцяў) і да т.п. — аднолькава шырока ўжываюцца як у бізнэсе, так і ў грамадзкай сфэры.**

**Зь іншага боку, і сам бізнэс асымілюецца і эксплюатуе сацыяльныя каштоўнасьці, ідэалягічны падыход і сацыяльна-гуманітарныя тэхналёгіі. Вядома ж, эканамічная рацыянальнасьць дамінуе, але дасягнутае разуменьне таго, што арганізацыі людзей (асабліва вялікія арганізацыі, якія аб’ядноўваюць мноства калектываў і групаў) ня могуць эфэктыўна працаваць і ўстойліва разьвівацца, грунтуючыся на адной толькі голай эканамічнай рацыянальнасьці. Апошняя супрацьпастаўляе калектыў і індывіда, а пасьпяховая дзейнасьць арганізацыі залежыць ад ступені інтэграванасьці індывідуальных і арганізацыйных мэтаў. Неабходная інтэграцыя на каштоўнасным, ідэалягічным узроўнях, на ўзроўні паводзінаў. Менавіта эфэкт такой інтэграцыі (эфэкт сынэргіі), як паказваюць прыклады, стварае высокую зараджанасьць і мэтанакіраванасьць калектыву на дасягненьне посьпеху. Адсюль і аналёгія зь місіянэрскімі арганізацыямі, пераймальне і выкарыстаньне некаторых ідэалягічных прынцыпаў.**

**Аляксей Бабайцаў,**
**кансультант па арганізацыйным разьвіцьці,**
**фірма “Альпіна Кансалт”**

насьць: асноўныя паслугі і праграмы, якія вы ажыцьцяўляеце.

4. Якімі асноўнымі каштоўнасьцямі і перакананьнямі мы павінны кіравацца ў сваіх штодзённых зносінах адзін з адным і з нашымі кліентамі? Якая філязофія ляжыць у аснове нашых паслугаў? Нашыя каштоўнасьці (складзіце невялічкі сьпіс). Нашая філязофія (адзначце яе асноўныя пункты).

## АПІСАНЬНЕ НАШАЙ МІСІІ

(Аб'яднайце атрыманую інфармацыю і сфармулюйце місію, у якой апісана, *чым* зьяўляецца арганізацыя, *што* яна робіць і *чаму*).

Часта фармуляваньне місіі займае шмат часу, іншым разам патрабуе шматлікіх сустрэчаў. Не існуе адзінага фармату, у якім павінна быць сфармуляваная вашая місія. Задача заключаецца ў тым, каб дасягнуць пагадненьня са сваёй групай па фармулёўцы, што найлепшым чынам адлюстроўвае вашыя мэты. Немагчыма прапанаваць дасканалую фармулёўку, якая б усіх задавальняла, але яе калектыўнае абмеркаваньне можа наблізіць вас да гэтага.

Таму працэс фармуляваньня місіі амаль такі ж важны, як і наяўнасьць місіі. Падчас гэтага працэсу ў вашай групы будзе магчымасьць шчыра выражаць і абмяркоўваць свае думкі і ўяўленьні адносна будучыні арганізацыі. Ён выяўляе любое неразуменьне і розныя пазыцыі сярод сябраў арганізацыі адносна яе місіі, мэтаў і праграмаў. Пажадана, каб удзел у працэсе стварэньня місіі адчуваў — у ідэале — кожны супрацоўнік (сябра) арганізацыі, а практычна — асноўныя супрацоўнікі арганізацыі. Толькі тады яны будуць лічыць яе цалкам "сваёй".

## ШТО ДАЕ МІСІЯ І ПРАЦА НАД СТВАРЭНЬНЕМ ПАСЬПЯХОВАЙ ФАРМУЛЁЎКІ?

У дзейнасьць любой арганізацыі стала ці часова ўцягнутыя розныя людзі. Арганізаваць эфэктыўную сумесную працу нялёгка, нават калі вы маеце справу з захопленымі і бескарысьлівымі людзьмі. Адзін з найважнейшых фактараў, што падштурхоўвае людзей да супрацы — гэта адчуваньне адзінства мэты. Прызначэньне фармулёўкі місіі — зразумела выразіць гэтую адзіную мэту. Пытаньне, ці мець місію арганізацыі і ў якой ступені яна павінна быць фармалізаваная і дэталізаваная, можа мець розныя адказы ў залежнасьці ад шэрагу канкрэтных абставінаў.

**Такім чынам, што дае нам місія:**

— адчуваньне агульнасьці мэты;

— дэталізуе статус арганізацыі і забясьпечвае кірунак і арыентыры для вызначэньня мэтаў і стратэгіяў на розных арганізацыйных узроўнях;

— надае арганізацыі вызначанасьць, індывідуальнасьць, што дазваляе прыцягваць супрацоўнікаў пэўнага тыпу, прасоўваць ідэі і паслугі;

— забясьпечвае ясную, эфэктыўную камунікацыю арганізацыі са зьнешнім сьветам (выступае "візытоўкай" арганізацыі для шырокай грамадзкасьці, донараў, кліентаў, СМІ, дзяржаўных/камэрцыйных структураў);

— яднае супрацоўнікаў і валянтэраў вакол агульнага бачаньня праблемы і шляхоў яе вырашэньня, нагадвае пра высокае гуманістычнае прызначэньне НДА;

— правярае новыя ідэі і кірункі дзейнасьці;

— дазваляе арганізацыі быць хутчэй праактыўнай, чым рэактыўнай;

— складае аснову для ўсіх кіраўнічых рашэньняў;

— зьяўляецца эфэктыўным інструмэнтам для каманднай працы.

Амэрыканскі дасьледчык J. A. Pearce паказвае, што ўдалая фармулёўка місіі патрэбная арганізацыі, каб вылучыцца з шэрагу іншых, надаць штуршок уласнаму разьвіцьцю і стымуляваць выкананьне кіраўнічай стратэгіі; пры гэтым сталая, карпатлівая і асэнсаваная праца — дарагі інструмэнт як для фармуляваньня, так і для ўкараненьня стратэгіі арганізацыі. У выніку сталай працы над фармулёўкай сваёй місіі арганізацыя захоўвае і разьвівае пачуцьцё ўласнай мэты, што дазваляе максымальна зразумела адказваць на пытаньні: для чаго існуе арганізацыя, якія патрэбы яна задавальняе, каго абслугоўвае.

## ПЕРАГЛЯД МІСІІ

Якасьць фармулёўкі місіі вызначаецца тым, наколькі доўга яна здольная праслужыць безь зьмяненьняў. Тым ня менш, час ад часу ўсё ж варта вяртацца да яе і правяраць, наколькі яна адпавядае цяперашняму стану арганізацыі і навакольля, ці не надыйшоў час для неабходных зьменаў. Але намагайцеся не загразнуць у філязофскіх дыскусіях, на якія дарма губляецца час і энэргія. На пэўным этапе ўсе павінныя прыйсьці да пагадненьня адносна фармулёўкі місіі і рухацца далей. А праз пэўны час місію можна будзе перагледзець, каб пераканацца, што яна адпавядае рэчаіснасьці.

## У ЗАКЛЮЧЭНЬНЕ....

Місія — гэта жыцьцёва важны панятак для дабрабыту арганізацыі. Аднак якой бы карыснай ні была місія, яна ператвараецца толькі ў словы, калі ў большасьці сябраў арганізацыі няма адчуваньня саўдзельнасьці ў працэсе яе стварэньня.

# [не]сакрэтныя матэрыялы

## Камэнтар да стратэгічнага пляну "Кола сяброў"

**Напрыканцы восені магілёўскае "Кола сяброў" зладзіла прэзэнтацыю свайго стратэгічнага пляну. Мерапрыемства атрымалася як мінімум цікавым і павучальным: форма "вялікіх" прэзэнтацыяў сваіх дасягненьняў, што абсалютна не выключае элемэнты "публічнай поркі", — яшчэ адзін крок да асэнсаванай дзейнасьці арганізацыі, крок да таго, каб зрабіць арганізацыйную структуру больш адкрытай для супольнасьці. У той жа час гэтая арганізацыя стала адной зь першых, якая раскрыла некаторыя драматычныя моманты распрацоўкі стратэгічнага пляну арганізацыі. На гэтую тэму мы і папрасілі парэфлексаваць дырэктара "Кола сяброў" Віталя Васількова.**



— Цяпер словазлучэньне "стратэгічны плян" ці ня самае папулярнае ў "Коле сяброў" і сярод тых, хто блізкі да нас. Зь лістапада 2002 яно замяніла сабой злучэньне "стратэгічнае плянаваньне", якім жыла і дыхала ўся "колаўская" супольнасьць цягам папярэдняга паўгода. Менавіта столькі часу спатрэбілася "мазгавому штабу" арганізацыі, каб увасобіць калектыўнае адчуваньне насьпеласьці пераменаў у жыцьці і працы (яно, дарэчы, не хавалася, а нават і заахвочвалася) у рэальны дакумэнт. У ім адчуваньне адлюстраванае ў дакладных фармулёўках новых задачаў, новых мэтаў і новых мэтадаў іх дасягненьня. Вось што такое, калі сказаць каротка і ясна, стратэгічны плян.

Зразумела, адразу пасьля прыняцьця і грамадзкай прэзэнтацыі стратэгічнага пляну глябальнага перавароту ў справах "Кола сяброў" не адбылося. Аднак на гэтым этапе назіраецца відавочны пераварот у мысьленьні і думках, якія (і тут варта пагадзіцца з марксыстамі) сапраўды валодаюць матэрыяльнай сілай. Любы, хто ведае "Кола сяброў" (на шчасьце, такіх людзей ва ўсіх сэктарах грамадзтва шмат), ня можа не заўважаць праяваў новага — больш сучаснага па форме і больш дзелавога па сутнасьці — стылю ў працы нашага офіса. Яшчэ больш гэта праяўляецца ва "ўнутраным жыцьці" саміх супрацоўнікаў офіса. Памяшканьне, кампутары, мы самі засталіся такімі ж, а характар адносінаў да сябе і сваіх абавязкаў, да партнэраў і кліентаў, да мэтадалёгіі і зьместу таго, чым жыве "трэці сэктар", заўважна мяняецца на карысьць прафэсіяналізму і адказнасьці, ініцыятывы і агульнай зацікаўленасьці ў выніках працы. Цяпер да гэтых самых вынікаў выстаўляюцца паказчыкі ня столькі колькаснага — "правялі", "арганізавалі", "зладзілі", "ахапілі", "раздалі", "аказалі паслугаў", "дапамаглі", колькі якаснага характару — што гэтыя высілкі рэальна (у лепшы бок, зразумела) зьмянілі ў "трэцім сэктары" ці хай сабе ў самым маленькім яго фрагмэнце і як гэтыя зьмены можна "памацаць".

Гэта адзначана і ў фармулёўцы місіі нашай арганізацыі: *"Кола сяброў" грунтуецца на прынцыпах дэмакратыі, сяброўства, незалежнасьці Беларусі, агульначалавечых каштоўнасьцях і праз самарэалізацыю сябраў аб'яднаньня, спрыяньне прыватным і супольным ініцыятывам, пашырэньне партнэрскіх дачыненьняў* ***ставіць за мэту ўсталяваньне ў сваім асяродку і ў грамадзтве вольнай дабрабытнай супольнасьці".***

Відавочна, што "дабрабытная супольнасьць" (сфармуляваная мэта была 4 гады таму) ніяк не прыходзіць. Таму (і ня толькі таму) за гэтыя гады ў колаўцаў прымножыліся стомленасьць і незадаволенасьць. Дзякуй богу, пазьбеглі цынізму і нявер'я, бо пра стратэгічны плян зараз і не вялося б.

Тым ня менш, сябраў арганізацыі не абмінула спакуса "абвінавуціць" у сваім настроі не саміх сябе, а місію. Уласна кажучы, з крытычных нападаў на яе і пачалося стратэгічнае плянаваньне. Па ўсіх патрабаваньнях незалежнай аўдытарскай праверкі ў "Коле сяброў" была праведзеная дыягностыка. Яе ажыцьцявіў украінскі спэцыяліст, цалкам бестаронні да нашага асяродку. Яго шчырыя высновы, якія ня кожнаму прыйшліся даспадобы, не расчаравалі (бо супадалі з нашымі падазрэньнямі ў тым, што "ня ўсё так добра ў дацкім каралеўстве"), а дадалі калектыўнага імпэту ў пошуку сумленнага адказу на ўсе вострыя пытаньні арганізацыйнага жыцьця.

За дыягностыкай надыйшоў час уласна стратэгічнага плянаваньня, якому былі прысьвечаныя некалькі сэмінараўдыспутаў — іх вялі трэнэры Сьвятлана Зінкевіч і Уладзімер Корж. Пачалі, зразумела, зь місіі як вызначальнага моманту. Спрачаліся. Прапаноўвалі зьмены. Удакладнялі акцэнты. Рабілі новыя фармулёўкі... А скончылі гэты этап плянаваньня прызнаньнем таго, што місія ўжо шмат чым добрым сталася для арганізацыі, і, самае галоўнае, яшчэ здольная паслужыць "Колу сяброў", бо свайго мабілізацыйнага і зьмястоўнага патэнцыялу далёка ня вычарпала. Заставалася толькі распачаць складаньне стратэгічнага пляну, што і было зроблена.

Можа менавіта цяпер кожнае слова місіі пацьвердзілася ў выглядзе рэальна дасягальных мэтаў і вынікаў праз прызму стратэгічнага плянаваньня і ажыцьцяўленьня на гэтым падмурку канкрэтных справаў. Раней гэта былі ўсяго толькі правільныя словы і добрыя намеры — сёньня ў іх ёсьць падмурак, яны, як і сама біяграфія "Кола сяброў", атрымалі працяг.

Галоўнае — нарэшце сьвядома зробленыя гэты стратэгічны (як у мысьленьні, так і ў будзённай грамадзкай практыцы) крок. Крок насустрач той несупакоенасьці, якая мусіць прывесьці да самаўдасканаленьня. Нездарма ў місіі даўно была прапісаная і захавалася пасьля нядаўняга крытычнага дыспуту задача дасягненьня ўсяго добрага і прыстойнага "ў сваім асяродку і ў грамадзкай супольнасьці". Што-небудзь зрабіць, як сьведчыць увесь чалавечы досьвед, можна сапраўды толькі пачаўшы зь сябе.

# СТРАТЭГІЧНЫ ПЛЯН

## Магілёўскага грамадзкага аб'яднаньня "Кола сяброў"

### УСТУП

Стратэгічны плян ёсьць вынікам натуральнага, эвалюцыйнага разьвіцьця Магілёўскага грамадзкага аб'яднаньня "Кола сяброў". Існавалі аб'ектыўныя прычыны для таго, каб мы зрабілі сьвядомы выбар і прагноз на будучыню. Вось некалькі з гэтых прычынаў:

— пэрыяд сталеньня арганізацыі, які доўжыўся 7 год, ператварыў МГА КС у буйнейшае NGO вобласьці з усімі атрыбутамі рэсурсавага цэнтру;

— у новых грамадзка-палітычных умовах беларускія NGO павінны распрацаваць выразныя і канкрэтныя ініцыятывы па выхадзе з крызысу: пашырыць сетку грамадзкіх арганізацыяў, павялічыць іх ролю ў справе пабудовы грамадзянскай супольнасьці;

— сёньня трэба больш эфэктыўна працаваць унутры "трэцяга сэктару" рэгіёну, а таксама выпрацаваць асэнсаваную стратэгію ўзаемаадносінаў ня толькі з грамадзтвам, але і з уладай;

— інтэлектуальны штаб КС адчуў неабходнасьць правядзеньня структурных зьменаў як у самой арганізацыі, так і ў накірунках яе дзейнасьці.

Напачатку бягучага году, у лютым, была праведзеная дыягностыка "Кола сяброў". Гэта быў адмысловы ўнутраны сэмінар, падчас якога ўсе сябры арганізацыі мелі магчымасьць прааналізаваць зробленую працу, ацаніць яе эфэктыўнасьць, выказаць практычныя заўвагі ў бок кіраўніцтва, даць прагноз на будучае арганізацыі ды на сваё месца ў ёй і, нарэшце, вызначыць свае адносіны да формы ўнутрыарганізацыйных зьменаў на новым этапе разьвіцьця.

Аналіз атрыманых вынікаў дыягностыкі выявіў некалькі "балючых" кропак, якія запатрабавалі апэратыўнага ўмяшаньня. Сярод найбольш важных зь іх былі:

— рознае бачаньне агульнай аб'яднальнай мэты пры наяўнасьці канкрэтных асабістых мэтаў;

— адсутнасьць дакладных крытэрыяў ацэнкі эфэктыўнасьці працы;

— недасканалая карпаратыўная этыка ўзаемаадносінаў;

— адрозныя меркаваньні па правядзеньні структурнай рэарганізацыі.

Каб знайсьці ўзгодненыя адказы на шматлікія пытаньні, было вырашана правесьці ўнутраны арганізацыйны сэмінар па стратэгічным плянаваньні.

У красавіку 2002 г. пад кіраўніцтвам трэнэраў САР "Кола сяброў" правяло двухдзённы трэнінг па стратэгічным плянаваньні. Падчас трэнінгу адбылася рэвізія ўсіх асноўных прынцыпаў працы, у тым ліку самой місіі КС, яшчэ раз былі ўсьвядомленыя прыярытэты. Быў перагледжаны пералік паслугаў, якія арганізацыя аказвае партнэрам і кліентам, а таксама была "дэшыфраваная" сутнасьць асноўных паняцьцяў, якія NGO ужываюць падчас сваёй дзейнасьці.

Станоўчыя вынікі праведзенага сэмінару па стратэгічным плянаваньні можна сфармуляваць наступным чынам:

1. Былі вызначаныя чатыры асноўныя стратэгічныя мэты, дзеля выкананьня якіх арганізацыя будзе працаваць у бліжэйшы час і ў пэрспэктыве.

2. Быў распрацаваны паэтапны плян рэалізацыі вынікаў сэмінару зь сямі пунктаў, які праз канкрэтныя праекты, распрацаваныя на падмурку абраных стратэгічных мэтаў, дазволіў сфармуляваць стратэгічны плян. Гэты плян прайшоў зацьверджаньне на агульным сходзе КС і стаў такім чынам асноўным працоўным дакумэнтам, які вызначае кірунак разьвіцьця арганізацыі і яе прыярытэты.

3. Усе канкрэтныя вынікі сэмінару былі дасягнутыя шляхам агульнага абмеркаваньня, што дае падставы кіраўніцтву КС разьлічваць у працэсе рэалізацыі стратэгічных мэтаў арганізацыі на адказнае выкананьне кожным сябрам "Кола сяброў" сваіх абавязкаў.

Цягам траўня-чэрвеня бягучага году ў КС былі сфармаваныя творчыя групы для аналізу дзеючых праектаў, каб выявіць іх адпаведнасьць стратэгічным мэтам арганізацыі, і абагульненьня новых праектных прапановаў, якія павінны дапамагчы ў рэалізацыі сфармуляваных стратэгічных мэтаў. Трэба адзначыць, што зьдзяйсьненьне праектаў, спрыяльных рэалізацыі асноўных стратэгічных мэтаў, запатрабуе ня толькі наяўнага патэнцыялу КС, але таксама тых чалавечых і матэрыяльных рэсурсаў, якія могуць зьявіцца не раней як праз 1-2 гады ў працэсе разьвіцьця самой арганізацыі і яе партнэрскіх сувязяў. У якасьці формы рэалізацыі праектаў прапануецца як мінімум два варыянты:

а) сіламі сябраў КС;

б) сіламі актывістаў партнэрскіх NGO, абраных на тэндэрнай аснове, пад патранажам Рады КС.

### МІСІЯ

"Кола сяброў", грунтуючыся на прынцыпах дэмакратыі, сяброўства, незалежнасьці Беларусі, агульначалавечых каштоўнасьцях, праз самарэалізацыю сябраў аб'яднаньня, спрыяньне прыватным і супольным ініцыятывам, пашырэньне партнэрскіх дачыненьняў ставіць за мэту стварэньне ў сваім асяродку і ў грамадзтве вольнай і дабрабытнай супольнасьці.

### БАЧАНЬНЕ

Мы бачым сябе арганізацыяй, якая будзе сваю ўнутраную дзейнасьць і ўзаемаадносіны з партнэрамі і грамадзтвам на прынцыпах дэма-

кратыі, на падмурку культурных і нацыянальных традыцыяў, адкрытасьці і раўнапраўнага супрацоўніцтва.

Адчуваючы адказнасьць ня толькі за разьвіцьцё NGO у рэгіёне, але таксама і за разьвіцьцё грамадства ўвогуле, мы будзем усебакова садзейнічаць падрыхтоўцы і навучаньню грамадзка-актыўных асобаў, якім давядзецца на якасна новым узроўні вырашаць сацыяльныя, экалягічныя, адукацыйныя і культурныя праблемы грамадства.

Праз умацаваньне і разьвіцьцё нашай інфармацыйнай базы будзе створаная і разгорнутая аб'ектыўная "мапа" рэгіёну, якая адлюструе ўвесь спэктар NGO, іх магчымасьці і асноўныя сфэры дзейнасьці.

Выкарыстоўваючы свае партнэрскія сувязі на рэспубліканскім узроўні і міжнародныя кантакты, мы хочам паспрыяць прасоўваньню і ўмацаваньню ідэяў устойлівага разьвіцьця як канцэпцыі, што найбольш поўна адпавядае гарманічнаму і творчаму разьвіцьцю чалавецтва.

## СТРАТЭГІЧНЫЯ МЭТЫ І ШЛЯХІ ІХ ДАСЯГНЕНЬНЯ

Аналіз моцных і слабых бакоў, зроблены ў працэсе сэмінару па стратэгічным плянаваньні, усебаковая ацэнка якасьці паслугаў, якія прадастаўляе нашая арганізацыя партнэрам і кліентам, а таксама мэты і задачы, што вынікаюць зь місіі і бачаньня будучыні КС, — усё гэта дазволіла вылучыць чатыры асноўныя стратэгічныя мэты, на грунце якіх мы мусім разьвіваць сваю дзейнасьць як зараз, так і ў пэрспэктыве. Кожнай са стратэгічных мэтаў адпавядаюць пэўныя накірункі працы, што паспрыяюць яе дасягненьню.

I. Станаўленьне інфраструктуры сэктару NGO і спрыяньне разьвіцьцю грамадзкіх ініцыятываў.

— навучаньне актывістаў NGO;

— арганізацыйная і мэтадалягічная дапамога NGO рэгіёну;

— дасьледаваньні ў галіне "трэцяга сэктару";

— распаўсюд і абмен інфармацыяй;

— правядзеньне конкурсаў праектаў;

— далучэньне сябраў партнэрскіх арганізацыяў да праектаў, якія рэалізуе КС;

— прасоўваньне і адстойваньне інтарэсаў NGO у дзяржаўных структурах.

II. Станаўленьне КС у якасьці стабільнай дэмакратычнай арганізацыі.

а) Упарадкаваньне арганізацыйнай структуры, якое ўключае:

— сыстэму ўнутранага інфармаваньня;

— вызначэньне і падзел абавязкаў;

— падзел заканадаўчай і выканаўчай уладаў;

— сыстэму ацэнкі і кантролю за выкананьнем прынятых рашэньняў;

— навучаньне сябраў арганізацыі і пэрсаналу;

— стварэньне сыстэмы PR-мэнэджмэнту;

— разнастайнасьць крыніцаў фінансаваньня.

б) Удасканаленьне сыстэмы плянаваньня, фінансаваньня і выдаткаў:

— вызначэньне прыярытэтаў у аказаньні паслугаў партнэрам і кліентам;

— паляпшэньне якасьці паслугаў.

III. Арганізацыя супрацоўніцтва і ўзаемадзеяньня паміж рознымі сэктарамі грамадства.

— стварэньне сыстэмы PR-мэнэджмэнту;

— рэалізацыя міжсэктаральных праектаў;

— выкарыстаньне сацыяльнага капіталу: прыватныя кантакты і да т.п.;

— стварэньне базы дадзеных (палітыка-грамадзка-сацыяльны "пашпарт" рэгіёну);

— лябіяваньне і абарона інтарэсаў "трэцяга сэктару";

— грамадзянскае прадстаўніцтва ў розных мерапрыемствах дзяржаўнага сэктару;

— удзел у міжрэгіянальных і агульнанацыянальных праграмах (непасрэдна і праз БАРЦ).

IV. Фармаваньне асобаў і супольнасьцяў з новай мэнтальнасьцю.

— азнаямленьне (інфармаваньне) грамадзкасьці зь дзейнасьцю NGO;

— праца з моладзьдзю і дзецьмі;

— разьвіцьцё міжнародных кантактаў.

## ПАРТНЭРСТВА. СУПРАЦОЎНІЦТВА. КЛІЕНТЫ

Грунтуючыся на нашай місіі і бачаньні арганізацыі, мы разумеем пад **партнэрствам** доўгатэрміновыя ўзаемавыгадныя адносіны паміж дзьвюма ці болей арганізацыямі, замацаваныя **дамовай** і накіраваныя на рэалізацыю агульных сумесных мэтаў і задачаў.

Мы лічым, што партнэрскія ўзаемаадносіны прадугледжваюць выкананьне наступных нормаў:

— адданасьць агульначалавечым каштоўнасьцям і імкненьне да пабудовы адкрытай грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі;

— выкарыстаньне ў сваёй працы дэмакратычных працэдураў;

— імкненьне пашыраць партнэрскія сувязі як у рэгіёне, так і на міжрэгіянальным узроўні;

— інфармаваньне адно аднаго аб сваёй дзейнасьці, бягучых праграмах і праектах, узаемадапамога ў правядзеньні мерапрыемстваў;

— плянаваньне і ацэнка сумеснай дзейнасьці;

— адказнасьць за выкананьне прынятых абавязацельстваў;

— недапушчальнасьць дзейнасьці, якая можа прынесьці матэрыяльную альбо маральную шкоду твайму партнэру.

Аддаючы ў сваёй дзейнасьці перавагу партнэрству, мы прымаем і такую форму ўзаемадачыненьняў паміж арганізацыямі, як **супрацоўніцтва**. Гэта мы разумеем наступным чынам: працэс, падчас якога некалькі арганізацыяў афіцыйна пагаджаюцца сумесна працаваць дзеля дасягненьня канкрэтных мэтаў альбо рэалізацыі сумеснага праекту. Супрацоўніцтва прадугледжвае ўдзел у працэсе сумеснага прыняцьця рашэньняў і прадастаўленьне рэсурсаў для рэалізацыі ўзгодненых дзеяньняў.

Пад **кліентамі** мы разумеем тых асобаў і арганізацыі, якія карыстаюцца паслугамі "Кола сяброў", альбо тых, на каго скіраваная дзейнасьць "Кола сяброў".

## ПРАЕКТЫ, ЯКІЯ СПРЫЯЮЦЬ РЭАЛІЗАЦЫІ АСНОЎНЫХ СТРАТЭГІЧНЫХ МЭТАЎ

**1. Станаўленьне інфраструктуры NGO і спрыяньне разьвіцьцю грамадзкіх ініцыятываў**

**а) Новыя праекты**

"Стварэньне фонду рэгіянальнага разьвіцьця"

**Ідэя:** стварэньне спэцыялізаванага фонду, які будзе акумуляваць сродкі, што накіроўваюц-

ца на вырашэньне найбольш важных сацыяльных і экалягічных праблемаў магілёўскага рэгіёну.

Сродкі дасягненьня:

— празь інавацыйныя праекты шляхам канкурэнцыі, за кошт прыцягненьня недзяржаўных сродкаў. У склад апякунскай Рады праекту павінны ўвайсьці прадстаўнікі NGO, дзяржаўных структураў і СМІ;

— з дапамогай выпрацаванай праграмы перападрыхтоўкі спэцыялістаў і стажыроўкі (па адпаведным профілі) у краінах з рынкавай эканомікай.

Мэтавая група: NGO рэгіёну, супрацоўнікі дзяржаўных установаў.

“Конкурс ідэяў”

**Ідэя:** стымуляваньне росту актыўнасьці малых грамадзкіх аб’яднаньняў і прыватных ініцыятываў у рэгіёне.

Сродкі дасягненьня: наладжваньне сталага конкурсу з мэтай заахвочваньня паўстаньня новых грамадзкіх аб’яднаньняў і праектаў рэгіянальных NGO, скіраваных на арганізацыйнае разьвіцьцё, умацаваньне матэрыяльнай базы, пошук новых формаў і мэтадаў працы з насельніцтвам.

Мэтавая група: NGO і сацыяльна-актыўныя грамадзяне рэгіёну.

“Адукацыйная праграма”

**Ідэя:** выпрацаваць і зьдзейсьніць на падмурку папярэдняга маніторынгу адукацыйных патрэбаў актывістаў NGO, а таксама маркетынгавых дасьледаваньняў запатрабаваньняў і магчымасьцяў грамадзкага “рынку” шматпрофільную праграму — сукупнасьць спэцыялізаваных адукацыйных праектаў.

Сродкі дасягненьня:

— праз арганізацыю працы профільных школаў для актывістаў “трэцяга сэктару”: камутарнай, журналісцкай, па PR-мэнэджмэнце;

— праз праграмы стажыроўкі ў рэсурсавых цэнтрах Беларусі;

— праз арганізацыю кансультацыйнай службы ў структуры КС.

Мэтавая група: актывісты NGO, сябры КС, студэнты ВНУ.

**б) Дзеючыя праекты** (іх разьвіцьцё будзе садзейнічаць дасягненьню стратэгічнай мэты):

“Магілёўская інфармацыйная сетка” — разьвіваецца ў межах праграмы міжрэгіянальнага супрацоўніцтва;

“Банк сацыяльнай інфармацыі” — разгортваецца ў інфармацыйна-даведачную службу, якая абслугоўвае іншыя праекты.

**2. Станаўленьне КС у якасьці стабільнай і дэмакратычнай грамадзкай арганізацыі**

**Новы праект:** *“Падтрымка і разьвіцьцё арганізацыйнай і карпаратыўнай культуры ў КС”*

**Ідэя:** паколькі КС крытычна ацэньвае ўласныя дасягненьні і недахопы, насьпела патрэба ў пошуку новых формаў і шляхоў разьвіцьця.

Сродкі дасягненьня:

— выпрацоўка новай мадэлі арганізацыйнай формы існаваньня;

— выпрацоўка апэратыўных гадавых плянаў: агульнага (для арганізацыі) і асабістых (для сябраў КС);

— выпрацоўка крытэрыяў ацэнкі працы, сыстэмы маніторынгу і кантролю за выкананьнем;

— разьмеркаваньне функцыянальных абавязкаў;

— фармаваньне працэдураў і выпрацоўка дакумэнтаў рэглямэнту (палажэньняў, службовых інструкцыяў, кантрактаў);

— арганізацыя сыстэмы асабіста арыентаванага плянаваньня;

— выпрацоўка парадку ўдзелу ў трэнінгах, сэмінарах і стажыроўках, складаньня справаздачаў і здачы мэтадычных матэрыялаў у інфармацыйны фонд;

— выпрацоўка сыстэмы заахвочваньня сябраў КС.

Мэтавая група: сябры КС.

**3. Арганізацыя супрацоўніцтва і ўзаемадзеяньня паміж сэктарамі грамадзтва**

**а) Новыя праекты**

“Магілёў-3” — штомесячны бюлетэнь NGO вобласьці

**Ідэя:** выпуск інфармацыйна-аналітычнага бюлетэня з мэтай аб’ектыўнага і поўнага інфармаваньня грамадзтва аб дзейнасьці NGO у Магілёўскай вобласьці.

Сродкі дасягненьня:

— інфармаваньне аб дзейнасьці NGO розных накірункаў дзеля стварэньня станоўчага іміджу “трэцяга сэктару” ў вачах грамадзкасьці;

— папулярызацыя прагрэсіўных канцэпцыяў і ідэяў разьвіцьця грамадзтва: устойлівага разьвіцьця, жыцьця без наркотыкаў, барацьбы з паленьнем і алькагалізмам, спыненьня AIDS і г.д.;

— прыцягненьне ў “трэці сэктар” студэнцкай моладзі;

— адпаведны PR зь дзяржаўнымі ўстановамі і афіцыйнымі культурніцкімі структурамі.

Мэтавая група: NGO вобласьці, творчыя саюзы і аб’яднаньні, інфармацыйныя структуры дзяржаўных органаў (гарадзкіх і абласнога выканкамаў, упраўленьня ўнутраных справаў, упраўленьня культуры, філармоніі, музэяў, бібліятэкаў, вышэйшых навучальных установаў і каледжаў.

“Крок насустрач”

**Ідэя:** стварэньне і правядзеньне шэрагу круглых сталоў паміж прадстаўнікамі рэгіянальных NGO і дзяржаўных структураў.

Сродкі дасягненьня:

— праз грамадзкі дыялёг, які павінен стаць эфэктыўным інструмэнтам прыцягненьня ўвагі грамадзкасьці да будзённых праблемаў, што паўстаюць перад жыхарамі гораду і перад грамадзтвам;

— празь зьмяненьне варожага стаўленьня да NGO з боку дзяржавы і наладжваньне эфэктыўнага супрацоўніцтва паміж NGO і ўладай;

— праз навучаньне шляхам адкрытых дыскусіяў адстойваць права NGO на ўдзел у жыцьці гораду і ў вырашэньні яго праблемаў.

Мэтавая група: сацыяльныя, моладзевыя, прыродаахоўныя структуры дзяржаўнай улады, рэгіянальныя NGO.

“Тры плюс два”

**Ідэя:** правядзеньне шэрагу дабрачынных акцыяў на глебе ўзаемадзеяньня NGO і бізнэсструктураў, існуючых пад эгідай саюзу прадпрымальнікаў.

Сродкі дасягненьня:

— аб'яднаньне творчага, арганізацыйнага і чалавечага патэнцыялу сэктару NGO з матэрыяльнымі і арганізацыйнымі рэсурсамі бізнэсовай супольнасьці гораду дзеля правядзеньня грамадзка значных акцыяў;

— паляпшэньне іміджу NGO у вачах грамадзкасьці гораду.

Мэтавая група: дзіцячыя дамы, інтэрнаты і г.д.

"Віленскі тракт"

**Ідэя:** стварэньне на базе офіса КС гасьцёўні для сустрэчаў зь цікавымі людзьмі, творчымі калектывамі і г.д.

Сродкі дасягненьня:

— стварэньне для КС іміджу арганізацыі, якая ёсьць культурным цэнтрам;

— запрашэньне творчай інтэлігенцыі, прадстаўнікоў NGO, гарадзкой інтэлектуальнай эліты да працэсу пэрманэнтнага духоўнага ўзбагачэньня;

— разбурэньне стэрэатыпу правінцыйнасьці;

— PR кампанія КС пры ўдзеле гарадзкіх СМІ.

Мэтавая група: сацыяльна-актыўныя грамадзяне.

**б) Дзеючыя праекты:**

Сайт КС — ператварэньне яго ў трохмоўны: беларуска-, расейска-, ангельскамоўны.

**4. Фармаваньне асобаў і групаў з новай мэнтальнасьцю**

**а) Новыя праекты**

"Заходне-эўрапейскі клюб"

**Ідэя:** спрыяньне разьвіцьцю і захаваньню ў грамадзтве моцнага пачуцьця прыналежнасьці да Эўропы і да яе гуманітарных каштоўнасьцяў.

Сродкі дасягненьня:

— непасрэдны кантакт з эўрапейскімі NGO, правядзеньне агульных мерапрыемстваў, абмен візытамі;

— адраджэньне эўрапейскіх традыцыяў у рэгіёне шляхам правядзеньня адпаведных мерапрыемстваў: чытаньняў, вечарынаў, сустрэчаў і г.д.;

— распаўсюд у грамадзтве (з дапамогай уласнай друкаванай прадукцыі і праз кантакты зь дзяржаўнымі СМІ) эўрапейскага бачаньня і ацэнкі грамадзка-палітычных падзеяў у Беларусі, на кантынэнце і ў сьвеце.

Мэтавая група: рэгіянальны актыў NGO, гісторыка-культурніцкія аб'яднаньні, студэнцтва, старэйшыя школьнікі.

"Рэгіён "Дняпро": Беларусь, Украіна, Расея"

**Ідэя:** арганізацыя супрацоўніцтва ў пэўных галінах грамадзкага жыцьця паміж людзьмі, што жывуць уздоўж Дняпра.

Сродкі дасягненьня:

— знаёмства і наладжваньне непасрэдных кантактаў у кожным з узьбярэжных раёнаў Беларусі, Украіны і Расеі з мэтай вызначэньня агульнай зацікаўленасьці ў вырашэньні грамадзка-палітычных, культурных і экалягічных праблемаў;

— пабудова на гэтым падмурку трывалай сыстэмы ўзаемадзеяньня;

— правядзеньне сумесных мерапрыемстваў.

Мэтавая група: актыўная моладзь, эколягі, культурніцкія суполкі, скаўты, турысты, краязнаўцы.

"Аб'яднаньне нацыянальных меншасьцяў"

**Ідэя:** стварэньне добрых умоваў для аб'яднаньня прадстаўнікоў розных нацыянальных меншасьцяў пад сьцягам беларускага грамадзянства і павагі да краіны, у якой яны жывуць.

Сродкі дасягненьня: праз знаёмства і шчыльныя кантакты падчас сумесных мерапрыемстваў, праз удзел у вызначаных грамадзкіх і культурніцкіх акцыях з прыцягненьнем дзяцей, падлеткаў, моладзі.

Мэтавая група: прадстаўнікі розных нацыянальных меншасьцяў Беларусі.

Клюб "Паліглот"

**Ідэя:** прыцягненьне людзей, што валодаюць замежнымі мовамі, да стварэньня пазытыўнага культурнага іміджу грамадзкіх аб'яднаньняў і валянтэрскага руху ў сэктары NGO.

Сродкі дасягненьня: аб'яднаньне ў своеасаблівы клюб людзей, што валодаюць замежнымі мовамі, выкарыстаньне іх у адпаведных сытуацыях кантактаў з замежнікамі, прапанова ў пераліку паслугаў з боку КС дабрачынных перакладчыцкіх паслугаў.

Мэтавая група: людзі, якія ведаюць замежныя мовы, з асяродзьдзя настаўнікаў, мэдыкаў, старэйшых студэнтаў, прадстаўнікоў рэлігійных канфэсіяў і творчых прафэсіяў.

**б) Дзеючыя праекты:**

"Дзіцячы праект" — арганізацыя цыклю відэапаказаў па гісторыі сусьветнай культуры, рэлігіі, мастацтва.

"Праект гуманітарных сувязяў" — актывізацыя міжнародных абменаў паміж моладзевымі дэлегацыямі.

"Праект культурніцкіх ініцыятываў" — каапэрацыя намаганьняў гарадзкіх NGO і адпаведных дзяржаўных установаў дзеля арганізацыі выставаў, пленэраў і да т.п. акцыяў (з выкарыстаньнем культурнай спадчыны наднацыянальнага ўзроўню).

## ЗАКЛЮЧЭНЬНЕ

Стратэгічны плян ёсьць неабходнай, але не адзінай умовай разьвіцьця нашай арганізацыі. Перадумовай эфэктыўнасьці гэтага пляну зьяўляецца пастаяннае і патрабавальнае асэнсаваньне як свайго месца ў грамадзтве, так і працэсаў, што ў ім адбываюцца. Гэты дакумэнт — ня догма, ён толькі падштурхоўвае да дзеяньня. Таму мы дапускаем, што ў выпадку кардынальнага зьмяненьня палітыка-эканамічнай сытуацыі ў краіне нам давядзецца ўнесьці карэктывы ў нашыя пляны і распачаць пошук такіх формаў працы, якія будуць адэкватныя рэчаіснасьці.

*Група, якая распрацавала стратэгічны плян:*
*А.Асіпцоў, В.Васількоў, У.Гвазьдзёў, С.Глазштэйн, С.Кунцэвіч, Г.Суднік, І.Шары, С.Шышкін*

# МІСІЯ ЁСЬЦЬ ВЫКАНАЛЬНАЙ

**Пытаньне місіі актуальнае ня толькі для структураў “трэцяга сэктару” Беларусі. Здаецца, на місію захварэлі і бізнэс-структуры, і палітычныя партыі, што ня можа ня радаваць. “Навошта мы гэтым займаемся?” — ключавое пытаньне для тых, хто ня хоча губляць свайго часу і жадае быць максымальна карысным для сябе і грамадзтва.**

**Мы папрасілі адказаць нашых рэспандэнтаў на наступныя пытаньні:**

**1. На ваш погляд, ці зьяўляецца абавязковай выпрацоўка місіі арганізацыі?**

**2. Ці артыкуляваная місія вашай арганізацыі?**

**3. Ці праводзяцца ў вашай арганізацыі штогадовыя справаздачы?**

**4. Ці робіць вашая арганізацыя плянаваньне на наступны год?**

**Аляксей Бабайцаў, кансультант па арганізацыйным разьвіцьці, “Альпіна Кансалт”**

1. На мой погляд, артыкуляваная місія ня ёсьць абавязковым, але магчымым атрыбутам бізнэс-структуры. Цэнтральная фігура ў гэтым працэсе — уласьнік фірмы. Многае вызначаецца яго разуменьнем сэнсу сваёй дзейнасьці. “Прасунутыя” бізнэсоўцы і мэнэджэры, што імкнуцца будаваць бізнэс на сучасных прынцыпах, якія арыентаваныя на разьвіцьцё структуры і маюць здаровыя лідэрскія рынкавыя амбіцыі, мусяць надаваць увагу арганізацыйнаму іміджу, PR, пытаньням карпаратыўнай культуры і г.д. А гэтыя рэчы непасрэдна зьвязаныя з разуменьнем місіі арганізацыі.

Зь іншага боку, шмат што залежыць і ад этапнасьці станаўленьня і эвалюцыі бізнэс-структуры, г.зн. ад некаторых натуральных працэсаў. У пачатку шляху ўсё зразумела: місія — гэта бачаньне і разуменьне мэты стваральнікам, лідэрам (уласьнікам) арганізацыі. Ён адзіны здольны суб’ектыўна ставіцца да дзейнасьці арганізацыі як да цэлага. Для яго гэта “дзецішча”, неад’емная частка яго суб’ектыўнасьці. Такая місія не заўжды (і часьцей за ўсё) артыкуляваная і ўсьвядомленая. Арганізацыя і калектыў павінны прайсьці пэўныя этапы станаўленьня, росту і структураваньня, перш чым пытаньне пра місію арганізацыі можа ўзьнікнуць зноў на новым узроўні. Місію нельга “спусьціць” зьверху, яе нельга проста абвесьціць ці недзе занатаваць. Місія мае патрэбу ў “суб’ектывацыі” сябрамі калектыву. А гэта тонкі працэс, ён патрабуе арганізацыі і ўвасабленьня: у карпаратыўных прынцыпах і рэглямэнтах, нормах паводзінаў і арганізацыйнай культуры — да гэтага яшчэ трэба прыйсьці.

2. Місія нашай арганізацыі — гэта спрыяньне прадпрыемствам усіх формаў уласнасьці ў падвышэньні эфэктыўнасьці дзейнасьці і ў дасягненьні максымальных эканамічных вынікаў. Можна сказаць і так: гэта спрыяньне росту кошту бізнэсу Нашых Кліентаў. Аднак пытаньне не ў фармулёўцы.

Нашай арганізацыі ўсяго крыху больш за год. Яна мае выражаную лідэрскую структуру. Ад самага пачатку сваёй дзейнасьці ўласьнік фірмы імкнуўся рэалізаваць у гэтай арганізацыі пэўныя прынцыпы і каштоўнасьці. Не заўжды гэта атрымліваецца гладка і знаходзіць разуменьне падначаленых, тым больш што калектыў яшчэ толькі фармуецца. Тым ня менш, гэты працэс (усьведамленьне місіі, рэалізацыя пэўных прынцыпаў і нормаў) будуецца абсалютна ўсьвядомлена. Яго этапамі сталі распрацоўка і прыняцьце карпаратыўнага рэглямэнту, стварэньне элемэнтаў карпаратыўнага іміджу, фармулёўка і абмеркаваньне “місіі кансультанта”, “канцэпцыі кліента” і г.д. Цэлы шэраг спэцыяльных мерапрыемстваў (гэтак званых “карпаратыўных гульняў”) быў прысьвечаны абмеркаваньню, праблематызацыі і выпрацоўцы агульных межавых прынцыпаў нашай дзейнасьці. Яшчэ раз падкрэсьлю, што нам крыху больш за год, і гэты працэс, вядома ж, ня скончаны. Ён ня можа быць штучна фарсіраваны, патрабуецца прытрымліваньне этапнасьці натуральнага станаўленьня: нейкія “ўкіданьні” былі зробленыя, але пасьля стала зразумела, што “перацiскаць” нельга — губляецца разуменьне сябраў калектыву, тым болей што мы маем цалкам прагматычныя задачы выжываньня на рынку і зарабленьня грошай. Таму патрэбная камбінацыя стратэгіяў “рэалізацыі ідэалу” і “натуральнага адбору”.

3. Так, мы праводзім штогадовыя справаздачы. Да справаздачы за гэты год рыхтуецца наш калектыў.

4. Так. Працэс стратэгічнага плянаваньня на наступны год ужо распачаты. Па яго выніках будуць вызначаныя асноўныя мэты, задачы, накірункі дзейнасьці, эканамічныя і арганізацыйныя парамэтры на наступны год. Будуць падрыхтаваныя два пляны: “традыцыйны” і “мэтавы” (больш напружаны па эканамічных паказчыках).

**Зінаіда Ганцук, старшыня ГА “Беларускі жаночы рух “Адраджэньне Айчыны”**

1. Я лічу, што выпрацоўка місіі — гэта неабходны і важны момант у разьвіцьці арганізацыі. Але, на мой погляд, выпрацоўка місіі павінна стаяць побач з такой важнай задачай, як стварэньне *бачаньня*, бо місія — гэта ўсё ж такі дзеяньне, якое неабходнае дзеля дасягненьня *бачаньня*. Менавіта *бачаньне* дазваляе стварыць карціну будучыні арганізацыі. І калі *бачаньне* шырокае і пэрспэктыўнае, валодае сілай яднаньня, пераконваючае і дасягальнае, то яно ў сваю чаргу ўплывае ня толькі на місію, але і на стратэгічнае і тактычнае плянаваньне дзейнасьці арганізацыі.

Хацелася б зьвярнуць увагу на тое, што

вельмі важна, каб у стварэньні бачаньня, у выпрацоўцы місіі, стратэгічным плянаваньні бралі ўдзел усе сябры арганізацыі. Калі сябры арганізацыі рэалізуюць місію як сваю асабістую, у іх зьяўляецца пачуцьцё посьпеху, узмацняецца матывацыя іх удзелу ў дзейнасьці арганізацыі.

2. Місія ГА “Беларускі жаночы рух “Адраджэньне Айчыны”— садзейнічаць свабоднай рэалізацыі жанчынамі сваіх грамадзянскіх, сацыяльных, эканамічных і культурных правоў, зацьверджаных Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і асноўнымі міжнароднымі актамі, дзеля дабрабыту і прагрэсу грамадства, дзеля нацыянальна-культурнага адраджэньня Беларусі.

3. На жаль, у нашай арганізацыі ў гэтым сэнсе існавалі пэўныя праблемы: не праводзіліся справаздачы, не падводзіліся вынікі працы, не аналізавалася дзейнасьць арганізацыі. Але быў Сход, ёсьць пэўныя высновы, і мне здаецца, што мы зрабілі важны крок наперад.

4. Так. Нягледзячы на дынамічнасьць і, як вынік, нявызначанасьць зьнешняга і ўнутранага асяродку, плянаваньне сёньня можна аднесьці да важнейшых задачаў і інструмэнтаў пасьпяховага разьвіцьця арганізацыі. Падчас плянаваньня праводзіцца паглыблены SWOT— аналіз арганізацыі, карэктуюцца пастаўленыя раней задачы, выбіраюцца найбольш эфэктыўныя шляхі дасягненьня мэты, ствараецца творчая каманда.

**Тацяна Пашавалава, старшыня Рады ГА “Цэнтар сацыяльных інавацыяў”**

1. Я лічу, што гэтая працэдура ёсьць абавязковай, таму што яна яднае людзей у каманду (калектыў). Апрача таго, калі мы самі сабе не адкажам на пытаньне “хто мы?”, то ня зможам адказаць і на такія пытаньні, як “што рабіць?”, “як шукаць сродкі?”, “з кім супрацоўнічаць?” і г.д.

Місію не выпрацоўваюць. Яе нельга прыдумаць, яе трэба зразумець і адэкватна выразіць. Каб напісаць фармулёўку місіі за пару гадзінаў ці дзён, трэба папярэдне папрацаваць разам хаця б некалькі месяцаў.

2. Так, і зараз яна выглядае наступным чынам: нашае прызначэньне — садзейнічаць разьвіцьцю свабодных, камунікабэльных асобаў з творчым мысьленьнем і такіх чалавечых супольнасьцяў, якія, пабудаваныя на супрацоўніцтве і ўзаемнай павазе, стануць “інкубатарамі” дэмакратычнай культуры.

3. Па выніках працы нашай арганізацыі напрыканцы кожнага году мы рыхтуем пісьмовыя справаздачы. Вусныя справаздачы адбываюцца на агульным сходзе раз на два гады.

Акрамя таго, мы робім справаздачы па асобных праектах (у тым ліку кароткае апісаньне рэалізаваных праектаў — гэта інфармацыя, якая заўжды мусіць быць пад рукой).

4. Плянуем фінансавыя паказчыкі, усё астатняе — у залежнасьці ад таго, наколькі зразумелай зьяўляецца сытуацыя па рэсурсах на канец году. Хутчэй, плянаваньне і ўзгадненьне іх паміж сабой адбываецца ў межах праграмаў і праектаў.



# Жаночае шчасьце

**БАПЖ распавядае пра распрацоўку сваёй місіі, стратэгічнага пляну і пра справаздачу**



Ірына Жыхар,
**намесьніца старшыні Рады ГА “Беларуская арганізацыя працоўных жанчынаў”**

### НАПЯРЭДАДНІ

Насьпяваньне неабходнасьці выпрацоўкі місіі ў Беларускай арганізацыі працоўных жанчынаў пачалося яшчэ падчас передвыбарчай мабілізацыйнай кампаніі “Выбірай”. Вельмі разгалінаваная па структуры БАПЖ, якая зьбірала кіраўнікоў рэспубліканскіх і мясцовых арганізацыяў раз на месяц ці нават раз на квартал, падчас кампаніі ці не ўпершыню ў гісторыі арганізацыі выпрацавала агульныя мэты і кірункі дзейнасьці і карысталася імі. Усе прытрымліваліся агульных мэтаў, але кожны працаваў па патрэбах пэўнага рэгіёну. Пасьля гэтай кампаніі ў арганізацыі зьявілася адчуваньне еднасьці.

Досьвед, атрыманы падчас “Выбірай”, мы лічым унікальным. І калі прайшлі выбарчы напал і пасьлявыбарчае расчараваньне, то паўстала абсалютна натуральнае пытаньне: што рабіць далей? Але таксама ж натуральна, што знайсьці адказ на яго адразу нам не ўдалося.

### ЯК ГЭТА БЫЛО

У пошуках нам вельмі дапамаглі трэнэры з Украіны: людзі, вельмі блізкія нам па духу, што таксама перажывалі шмат падобнага. Яны давалі нам мэтады (“мэтад” — ад старажытнагрэцкага “шлях”), якімі можна карыстацца, каб знайсьці адказы на гэтае няпростае пытаньне і для саміх сябе, і для арганізацыі. Тэхналёгіі, якія яны паказалі, не былі спэцыяльна распрацаваныя для БАПЖ, бо зьяўляліся ўнівэрсальнымі і падыходзілі для любой асобы і для любой арганізацыі. Галоўная роля, адыграная гэтымі схемамі, у тым, што яны прымусілі нас задумацца, далі пэўны штуршок наперад. Гэта было вельмі неабходна ў той момант. Менавіта тады БАПЖ стала на шлях стратэгічнага плянаваньня, выпрацоўкі місіі. А гэта працэс вечны, паколькі залежыць ад зьнешніх умоваў.

Сытуацыя навокал увесь час зьмяняецца, адпаведна павінны карэктавацца і стратэгіі дзейнасьці арганізацыяў. Таму пры зьмяненьні гэтых умоваў мы ня можам выконваць пляны, якія былі складзеныя з улікам учорашніх канкрэтных абставінаў.

Варта сказаць, што калі пачынаеш займацца стратэгічным плянаваньнем, то гэта вымагае пастаяннага маніторынгу і аналізу сытуацыі, акрамя таго — дакладных ведаў аб мэтавай аўдыторыі, на якую працуе арганізацыя. Разам з гэтым зьмяняюцца ўнутраныя правілы працы ў арганізацыі. Шчыра кажучы, ня ўсе сябры нашай арганізацыі гэта разумелі. Калі БАПЖ занялася гэтай справай, амаль ад пачатку пачаліся непаразуменні і канфлікты, бо зьмененыя правілы “гульні” ня ўсімі прымаліся. Былі такія арганізацыі, якія цалкам адмовілі неабходнасьць выпрацоўкі місіі, стратэгічнага плянаваньня, старшыні гэтых арганізацыяў не пагаджаліся жыць па-новаму, у якасна новых умовах, і таму сыходзілі з арганізацыяў.

Працэс выпрацоўкі місіі любой арганізацыі доўгі і няпросты. Так было і ў нас. Мы працавалі над місіяй амаль паўгода. За гэты час кожны з нас убачыў сябе іншым чалавекам, перанарадзіўся, мы шмат чаму навучыліся, а галоўнае — мы навучыліся слухаць адзін аднаго, стрымліваючы бурныя эмоцыі.

І ў лютым гэтага году “нарадзілі” місію, як дзіця. Гэта адбылося для нас абсалютна нечакана. Мы праводзілі другую агульнанацыянальную сэсію, у якой удзельнічалі і кіраўніцтва рэспубліканскай арганізацыі, і актывісткі практычна ўсіх рэгіянальных суполак. Абедзьве сустрэчы былі грандыёзным мазгавым штурмам, але я памятаю той момант, калі місія ўжо нібыта высьпела, і для яе выражэньня не хапала некалькіх словаў. Іх пошук быў руплівай, дбайнай, філіграннай працай над словам.

23 сакавіка 2002 году выпрацаваная місія была зацьверджаная на паседжаньні Рады БАПЖ: *садзейнічаць станаўленьню інстытутаў грамадзянскай супольнасьці шляхам масавага ўдзелу жанчынаў у рэалізацыі сацыяльна значных ініцыятываў*. Прэзэнтаваная і зацьверджаная місія — гэта нашае разуменьне прызначэньня арганізацыі працоўных жанчынаў.

Але такі варыянт місіі, на жаль, для зьнешняй аўдыторыі ня надта зразумелы, і таму мы мяркуем пра магчымасьць стварэньня двух варыянтаў — публічнага і зразумелага сьвядомым заангажаваным сябрам, якім можа быць той, што існуе зараз.

Стратэгічнае плянаваньне дазваляе эвалюцыянаваць як арганізацыі цалкам, так і яе сябрам у прыватнасьці. Мы верым у тое, што нам удасца шмат чаго зьмяніць. У нас ёсьць гэтае жаданьне. Стратэгічнае плянаваньне ёсьць вельмі важным працэсам, таму што ён зрушвае людзей з наседжанага месца і стымулюе прагу пераменаў, прымушае думаць.

Паўтаруся, што БАПЖ — вельмі разгалінаваная структура. Прыняты стратэгічны плян мае агульнанацыянальны характар і прадугледжвае адаптацыю яго кожнай арганізацыяй для свайго канкрэтнага рэгіёну, для сваіх умоваў. Нам стратэгічны плян неабходны для таго, каб культываваць нашу ўнутраную культуру, нормы ўзаемаадносінаў. Стратэгічны плян — гэта той элемэнт, які аб'ядноўвае нас. Таму нам ён вельмі неабходны.

### ПРАЕКТНАЯ ДЗЕЙНАСЬЦЬ

Яна ня мусіць быць вырашальным фактарам падчас стратэгічнага плянаваньня ці распрацоўкі місіі, то бок гэтыя два працэсы нельга падпарадкоўваць праектам, што рэалізуюцца.

Уся праектная дзейнасьць БАПЖ распрацаваная пад стратэгічны плян, рэалізацыя праектаў мусіць быць скіраваная на рэалізацыю стратэгічнага пляну.

### ГАДАВАЯ СПРАВАЗДАЧА

З моманту прыняцьця стратэгічнага пляну мінуў ужо амаль год, і мы рыхтуемся да справаздачы, якая пройдзе ў студзені. Галоўнае адрозьненьне гэтай справаздачы ад праведзеных раней — у яе аналітычным характары. На наш погляд, справаздача па выкананьні стратэгічнага пляну мусіць насіць менавіта аналітычны характар, а ня быць простай канстатацыяй праведзенай працы. І ўжо зараз я магу сказаць, што нам плян цалкам выканаць не ўдалося. Нельга падманваць грамадзкасьць і казаць, што арганізацыя, якая дагэтуль ня мела досьведу рэалізацыі такіх праграмаў, бездакорна выканала ўсё. Такога быць ня можа. І ўжо зараз зразумела, што плян ня быў выкананы таму, што мы не ўлічылі, колькі рэалізацыя запатрабуе грашовых выдаткаў, часу, людзей. Дый пры складаньні плянаў немагчыма ўлічыць такія дробязі, як, напрыклад, падаражэньне праезду ў транспарце. Да таго ж, плянуючы сваю дзейнасьць, мы ўзялі на сябе вельмі завышаныя абавязкі.

Але гэта ўсё дало нам выдатныя ўрокі на будучыню. Усе хібы і недахопы цяперашняга пляну будуць улічаныя пры складаньні наступнага.

**Нам ужо зразумела, што місія ня можа зьявіцца падчас простага сядзеньня за кубачкам кавы — яна мусіць нарадзіцца. Выдуманая місія не жыцьцяздольная. У нараджэньні місіі мусяць браць удзел усе сябры арганізацыі, свой унёсак павінны адчуваць усе, інакш місія ня будзе ўспрынятая нават сябрамі арганізацыі, будзе для іх чужой, а цягам пэўнага часу гэта можа прывесьці да адчужэньня ад арганізацыі. Людзі павінны разумець сэнс кожнага слова, ведаць, што за ім стаіць.**



# Спачатку было слова "навошта?"

**Аршанскі Цэнтар імя Філона Кміты — унікум нават для беларускай "трэцясэктарнай" сытуацыі. Арганізацыя, якая неаднойчы зьведала цяжкую руку мясцовых уладаў і праваахоўных органаў, у выніку чаго зараз дзейнічае паўлегальна, тым ня менш знайшла ў сабе сілы пайсьці на неардынарны і, як дагэтуль падаецца большасьці, неапраўданы для "нелегалаў" крок — сфармулявала ўласную місію і распрацавала стратэгічны плян. На галоўнае пытаньне, якое кляймом ляжыць на Цэнтры — "навошта вам гэта ўсё патрэбна?" — спрабуе адказаць Віктар Андрэеў, старшыня Цэнтру імя Філона Кміты.**

— Цэнтар імя Філона Кміты быў створаны ў красавіку 1997 году. На той час недзяржаўных арганізацыяў у рэгіёнах было вельмі мала, і досьведу не было амаль ніякага. Ворша ў гэтым пляне выглядала лепей за іншыя гарады, таму што ў горадзе былі моцныя арганізацыі БНФ і Свабоднага прафсаюзу, але праца ў гэтых арганізацыях мела сваю спэцыфіку. Мы прайшлі рэгістрацыю — нас кансультавалі спэцыялісты з "Аб'яднанага шляху", а матэрыяльную дапамогу пры рэгістрацыі аказаў Віцебскі філіял Фонду "Льва Сапегі".

У 1998 годзе Цэнтар Філона Кміты заснаваў рэгіянальную газэту "Куцейна", якая пасьпяхова разьвівалася. У 1999 годзе ўлады Цэнтар не перарэгістравалі, а пасьля зачынілі і газэту.

За час свайго існаваньня арганізацыя перажывала і ўздымы, і заняпады.

Але ў апошнія два гады было шмат працы. Стварылі выдавецкі цэнтар для НДА, у якім арганізацыі могуць вырабляць сваю друкаваную прадукцыю. Для маладых аршанскіх прадпрыемстваў амаль год праводзілі сэмінары па правах чалавека. У нас праходзяць навучаньне працы на кампутары дзеці-інваліды. Пачалася праца па стварэньні школьных рэдакцыяў і выданьні школьных газэтаў.

Акрамя таго, кожны дзень даводзіцца памнажаць, друкаваць, адсылаць і г.д. Ёсьць шмат новых ідэяў, якія праходзяць абмеркаваньне. Вялікую шкоду нанесьлі ўлады перад прэзыдэнцкімі выбарамі, калі канфіскавалі ў нас чатыры кампутары, якія мы так і не змаглі адсудзіць.

**— На Ваш погляд, наколькі актуальнае пытаньне місіі і плянаваньня для беларускага "трэцяга сэктару"?**

— Час абмяркоўваць і распрацоўваць свае місіі і стратэгічныя пляны насьпеў даўно. Але напачатку трэба зацікавіць няўрадавыя арганізацыі і ініцыятывы гэтымі тэмамі, трэба давесьці, што варта патраціць некалькі месяцаў на тое, каб арганізацыя і яе сябры перагледзелі, пераасэнсавалі дзейнасьць арганізацыі, вызначыліся, для чаго ж яны існуюць. Наяўнасьць місіі і стратэгічнага пляну дазваляе праводзіць мэтанакіраваную дзейнасьць, больш хутка і якасна шукаць партнэраў, спэцыялістаў і станавіцца больш прафэсійнымі ў абранай сфэры дзейнасьці.

**— Нягледзячы на тое, што вашая арганізацыя незарэгістраваная, вы актыўна дзейнічаеце і нават болей за тое — дазволілі сабе "раскошу" зрабіць стратэгічнае плянаваньне...**

— Бо зьмянялася сытуацыя на НДАшнай прасторы ў Воршы. Стварыліся новыя арганізацыі. І мы зразумелі, што нам трэба вызначыцца са сваім месцам, каб з аднаго боку не перакрыжоўвалася нашая дзейнасьць з астатнімі НДА, а зь іншага — вырашыць, у якім накірунку мы можам працаваць больш эфэктыўна, можам быць больш карыснымі для грамадзтва. Такім чынам прыйшлі да плянаваньня сваёй дзейнасьці.

Як гэта рабіць, мы ведалі — былі матэрыялы і напрацоўкі з сэмінараў, свае трэнэры, — але самі не надавалі гэтаму ўвагі. Проста не ўзьнікала такой патрэбы: не было падзелу працы сярод арганізацыяў, і мы рабілі ўсё, што толькі можна было рабіць. Цэнтар меў матэрыяльна-тэхнічную базу, якой ні ў каго ў горадзе не было. Справаў было шмат, і гэта не пакідала часу для абмеркаваньня сваёй будучыні. Потым, як і ў кожным неналаджаным мэханізме, пачалі ўзьнікаць супярэчнасьці, канфлікты інтарэсаў і ўсё іншае, што адбываецца, калі праца ідзе стыхійна, а не будуецца на глебе прынятых правілаў гульні. Так і прыйшлі да пытаньня: "Што рабіць?"

Місію і стратэгічны плян Цэнтру выпрацоўвалі ўсім складам сябраў арганізацыі. Поўны працэс выпрацоўкі заняў каля двух месяцаў, таму што ўсе маглі зьбірацца толькі па выходных. Найбольш цяжка ішла праца па фармуляваньні місіі: колькі людзей, столькі і думак — ніхто ня быў абмежаваны ў сваіх выказваньнях.

Спачатку мы правялі аналіз сваёй дзейнасьці, адзначылі слабыя і моцныя бакі. Склаўся вялікі сьпіс і добрага, і кепскага. І гэта нармальна пры аб'ектыўным падыходзе — толькі падчас рэальнай ацэнкі можна паставіць дасягальныя мэты. Аналіз паказаў, што ў нас ёсьць поле для дзейнасьці, ёсьць з кім і для каго працаваць.

На разуменьні гэтага была сфармуляваная наступная місія: "Цэнтар імя Філона Кміты, грунтуючы сваю дзейнасьць на прынцыпах дэмакратыі і галоснасьці, садзейнічае станаўленьню грамадзянскай супольнасьці ў Аршанскім рэгіёне шляхам разьвіцьця нацыянальнай культуры і фармаваньня нацыянальнай сьвядомасьці,

абароны правоў і свабодаў чалавека, падтрымкі грамадзянскіх ініцыятываў шляхам прадастаўленьня праграмаў, інфармацыі, тэхнічных сродкаў і іншых адпаведных паслугаў". Пры гэтым былі ўлічаныя ўсе ўмовы, у якіх даводзіцца працаваць — і неафіцыйны статус, і ўзаемаадносіны з уладамі…

**— Вы распрацавалі стратэгічны плян на аснове місіі?**

— Так. Місія — мэта арганізацыі, а плян — сродак дасягненьня нашай мэты. Па-першае, прыняцьце пляну дзейнасьці сумесна з правядзеньнем выбараў кіраўніцтва ў арганізацыі дае магчымасьць сябрам арганізацыі рабіць ацэнку працы як кіраўніцтва, так і арганізацыі ў цэлым. Па-другое, плян адлюстроўвае кірункі нашай дзейнасьці, наяўнасьць рэсурсаў і патрэбы ў іх, якія вынікі мы павінны атрымаць. Усе астатнія пляны (напрыклад, плян праектнай дзейнасьці) распрацоўваюцца, зыходзячы з прынятага стратэгічнага. Цяпер нашая праца, яе сэнс і зьмест больш зразумелыя для нас, мы дакладна ведаем, што хочам убачыць заўтра, якія спатрэбяцца спэцыялісты для дасягненьня нашых мэтаў і як лепей разьмеркаваць тыя невялікія рэсурсы, што мы маем.

**— Ці можна эфэктыўна працаваць са статусам "незарэгістраваны"?**

— Досьвед паказвае, што можна. Але заўжды даводзіцца быць вельмі асьцярожным і чакаць з боку ўладаў новых перашкодаў. Людзі да нас прыходзяць, і гэта галоўнае. Місія — візытная картка арганізацыі, па якой мы бачым мэту яе дзейнасьці і заўсёды яе прэзэнтуем. Стратэгічны плян — як прыступка лесьвіцы, па якой трэба ісьці да дасягненьня сваёй мэты. І нават пры супадзеньні мэтаў некалькіх арганізацыяў крокі для яе дасягненьня могуць быць рознымі. Пры гэтым ёсьць вялікае поле для супрацоўніцтва паміж арганізацыямі. Напрыклад, мы заключаем дамовы зь іншымі НДА на прадастаўленьне тых паслугаў, якія мы можам ім аказаць. Дамовы ня маюць ніякай юрыдычнай сілы. Проста ў сваім асяродку мы сумесна распрацоўваем унутраныя правілы працы і паказваем сваю гатоўнасьць рабіць нешта.



**— Складаецца ўражаньне, што выпрацоўка місіі і плянаў — панацэя ад усіх бедаў.**

— Вядома ж, не. Самы лепшы і самы маленькі плян хтосьці павінен выконваць. Але я думаю, калі вы хочаце аб'ектыўна параўнаць вашае становішча ўчора і сёньня, вашыя здабыткі і страты, ваш прафэсійны рост ці заняпад — зрабіце гэта. Інакш цяжка асэнсаваць свой рух — ці гэта рух наперад, ці хаджэньне па крузе.



## навошта яна ўкраінскім НДА?

# “Місія — за дваццаць хвілінаў”

Уладзімер Перапечаенка,
**трэнэр Луганскай абласной групы мэдыяцыі**
**atar@lep.lg.ua**

*Сейчас быстренько за 20 минут разработаем миссию…*
***(са звароту вядучага да ўдзельнікаў канфэрэнцыі)***

**Хуткасьць і тэмпы, зь якімі ўкараняюцца “кіраўнічыя” тэрміны на Ўкраіне, ашаламляюць (чаго пакуль ня скажаш пра эфэктыўнасьць дзейнасьці). Грамадзкія арганізацыі актыўна асвойваюць фандрэйзінг і мэнэджмэнт праектаў, бізнэс-маркетынг і мэрчэндайзынг, дзяржаўныя чыноўнікі глядзяць на ўсё скептычна і нібыта нечага чакаючы, хаця таксама ня супраць блiснуць слоўцамі кшталту “мэрыя” ці “дэпартамэнт”...**

**Сёньня на Ўкраіне ўсё цяжэй і цяжэй знайсьці грамадзкую арганізацыю, што не займалася б стратэгічным плянаваньнем і хаця б раз не рабіла SWOT-аналіз. Сучасныя веды ў галіне кіраваньня лінуліся ракой, і зараз проста немагчыма жыць бязь місіі. Іначай могуць запытацца: “У цябе што, дваццаці хвілінаў не было?..”**

**Што такое “місія” і навошта яна — далей больш падрабязна.**

### МІСІЯ ПАД МІКРАСКОПАМ

Паняцьце місіі выкарыстоўваецца ў стратэгічным кіраваньні для вызначэньня генэральнага накірунку разьвіцьця арганізацыі. У шырокім сэнсе слова — гэта філязофія і наканаваньне, сэнс існаваньня арганізацыі. У вузкім сэнсе — гэта сфармуляванае сьцьвярджэньне адносна таго, чаму і навошта існуе арганізацыя. Адзінай школы, якая б паказвала, як правільна фармуляваць місію, не існуе. У фармулёўцы можна вылучыць наступныя асноўныя блёкі:

— Хто мы?
— Што мы робім і для каго?
— Чаму мы існуем?

Прычым апошняе пытаньне можа мець шмат варыянтаў адказаў: ад пераліку канкрэтных каштоўнасьцяў арганізацыі да апісаньня практычных крокаў па рэалізацыі місіі. Напрыклад:

**Місія ДМО Клюбу “Янус” —** спрыяньне фармаваньню сьветапогляду моладзі як сацыяльна актыўных асобаў. А таксама:

— прапаганда здаровага ладу жыцьця;
— духоўнае і фізычнае разьвіцьцё;
— выхаваньне патрыятызму;
— выхаваньне моладзевых лідэраў.

У дадзеным прыкладзе прэзэнтаваны пералік паказвае на **каштоўнасьці** арганізацыі — здаровы лад жыцьця, духоўнае і фізычнае разьвіцьцё, патрыятызм, лідэрства.

Іншы прыклад:

**Місія моладзевай арганізацыі “Новая генэрацыя” —** спрыяньне станаўленьню на Ўкраіне грамадзянскай супольнасьці і фармаваньню новай эліты дзяржавы шляхам выхаваньня сацыяльна актыўнай моладзі ва ўзросьце 14-28 год і стварэньня ўмоваў для яе рэалізацыі.

У гэтым прыкладзе рэалізаваны іншы падыход — адлюстраваны **спосаб** увасабленьня місіі: шляхам выхаваньня і стварэньня ўмоваў для самарэалізацыі.

Сучасныя падручнікі па стратэгічным плянаваньні прапануюць кампрамісны варыянт і замяняюць пытаньне “Чаму мы існуем?” іншым — “За кошт якіх унутраных асаблівасьцяў?”, што дазваляе адлюстроўваць як каштоўнасьці, так і шляхі дасягненьня місіі.

Тым ня менш, незалежна ад фармулёўкі, місія наўпрост ці ўскосна адлюстроўвае каштоўнасныя ўстаноўкі сябраў арганізацыі і дазваляе “ўвязваць” мэты арганізацыі, мэты асобных групаў і асабістыя мэты ў адзіную супадначаленую гіерархію. Майкл Мэскан вылучае шэсьць тыпаў каштоўнасьцяў і зьвязаных зь імі мэтаў.

Глядзі табліцу.

Місіі большасьці ўкраінскіх НДА ўтрымліваюць сацыяльныя каштоўнасьці.

**Данецкі моладзевы дэбатны цэнтар —** Спрыяньне разьвіцьцю дзіцячай і моладзевай актыўнасьці ў сучасным грамадзкім жыцьці шляхам рэалізацыі міжнародных сацыяльных і адукацыйных праграмаў.

**ДМА “Клюб “Компас”** — Спрыяньне станаўленьню грамадзянскай супольнасьці шляхам выхаваньня сацыяльна-ўстойлівай моладзі. Прадастаўленьне падлеткам і моладзі магчымасьцяў для самарэалізацыі, засваеньня неабходных ім ведаў і навыкаў для далейшага жыцьця.

**Студэнцкае Брацтва г. Надвірна** — Стварэньне ўмоваў і магчымасьцяў для самарэалізацыі маладых людзей у розных сфэрах грамадзкага жыцьця.

Ёсьць прыклады спалучэньня некалькіх каштоўнасьцяў.

**Луганская абласная група мэдыяцыі** — Гарманічнае разьвіцьцё чалавека, грамадства і сьвету шляхам асьветніцкай, навукова-адукацыйнай дзейнасьці і кваліфікаванага вырашэньня канфліктаў пры задавальненьні духоўных і матэрыяльных патрэбаў супрацоўнікаў арганізацыі.

### НАВОШТА АРГАНІЗАЦЫІ МІСІЯ?

Місія фармулюецца для дасягненьня шэрагу мэтаў.

Па-першае, яна мусіць даць агульнае ўяўленьне патэнцыйным кліентам, партнэрам, канкурэнтам і г.д. пра дзейнасьць і філязофію арганізацыі. То бок яна задае арыентыры ці крытэрыі адрозьненьня пэўнай арганізацыі ад іншых і спрыяе яе пазыцыянаваньню на рынку.

Па-другое, місія спрыяе аб'яднаньню людзей у арганізацыі праз фармулёўку агульназразумелай мэты, што палягчае працэс ідэнтыфікацыі сябе з арганізацыяй і праз заданьне пэўных каштоўнасьцяў (стандартаў паводзінаў).

Па-трэцяе, місія стварае магчымасьць для больш дзейснага кіраваньня, не дазваляючы адхіляцца ад абранай мэты, супадначальваючы арганізацыйныя, групавыя ці асабістыя мэты і вызначаючы пэўныя агульныя падыходы ў разьмеркаваньні рэсурсаў.

Па-чацьвертае, місія надае сэнс дзейнасьці супрацоўнікаў арганізацыі і ўплывае на іх матывацыю.

Пры ўсёй сьцісласьці фармулёўкі (адзін сказ ці адзін абзац) распрацоўка місіі — даволі доўгі працэс: ён можа цягнуцца ад месяца да году. Для распрацоўкі місіі аналізуецца цяперашні стан арганізацыі, яе гісторыя, тып адносінаў, стан зьнешняга асяродзьдзя, у якім існуе арганізацыя, мэтавыя арыентыры і г.д. Усё гэта ўваходзіць у стратэгічнае кіраваньне арганізацыяй і ажыцьцяўляецца згодна з тэхналёгіяй стратэгічнага плянаваньня. Кожныя 5-7 год місія арганізацыі пераглядаецца і карэктуецца на прадмет яе адпаведнасьці мэтам і сытуацыі, што склалася на дадзены момант.

У грамадзкіх арганізацыях Украіны гэтыя працэсы ідуць значна хутчэй у сувязі з абставінамі, якія дынамічна зьмяняюцца. Стратэгія арганізацыі пераглядаецца штогадова, а місія можа карэктавацца раз на 2-3 гады.

### “ЩЕ НЕ ВМЕРЛА УКРАЇНА...”

Пацьвярджае словы нацыянальнага гімну ўкраінскі “трэці сэктар”, які “нягледзячы і насуперак” працягвае расьці. Сёньня ён ахоплівае 2,9 % украінскага насельніцтва. Менавіта ў гэтым сэктары “абкатваюцца” і апрабоўваюцца прасунутыя кіраўнічыя і адукацыйныя тэхналёгіі. Праўда, якасьць — “маємо те, що маємо...”

Місіі ва ўкраінскіх НДА добра працуюць на пачатковым этапе як калектываўтваральныя фактары — сам працэс вызначэньня доўгатэрміновай мэты, абмеркаваньня каштоўнасьцяў, пошуку фармулёўкі спрыяе згуртаваньню. З часам звычайна ўплыў гэтага фактару слабее — “старажылам” вяртацца да місіі нецікава, а “навічкам” выдаецца гатовая фармулёўка.

Цяжкавата працуе і пункт па наданьні сэнсу дзейнасьці супрацоўнікам — сямідзесяцігадовы лёзунгавы цяжар наклаў свой адбітак на мэнтальнасьць украінцаў. Новымі ўдзельнікамі місія часьцей за ўсё ўспрымаецца як простая дэклярацыя, а распрацоўшчыкі самі дрэнна разумеюць, што значыць “разьвітая грамадзянская супольнасьць” ці “духоўнае разьвіцьцё асобы”.

Пункт “пазыцыянаваньне арганізацыі з дапамогай місіі” таксама не працуе. Найбольш тыповы варыянт — патэнцыйны спажывец можа назваць лідэраў арганізацыі, потым яе назву і ў лепшым выпадку — узгадаць, што калісьці бачыў місію. Прычынаў тут шмат. Першая зьвязаная з кароткім тэрмінам знаходжаньня НДА на ўкраінскім рынку. Другая зьвязаная з агульным мэнталітэтам — лёзунгам ня верым… Трэцяя — самая істотная: украінскае заканадаўства не дазваляе грамадзкім непрыбытковым арганізацыям самастойна зарабляць грошы. Адсюль — арыентацыя на донара і міжнародныя праграмы. Іх стратэгія робіцца стратэгіяй НДА. Ужо другі год запар назіраецца парадаксальная зьява: чым лепш адаптаваны праект да рэгіянальнай тэматыкі, тым менш у яго шанцаў прайсьці па конкурсе, бо той выходзіць за межы фармальных патрабаваньняў. У такой сытуацыі місіі арганізацыяў робяцца ўсё больш і больш агульнымі, ёсьць рэальная пагроза згубіць “свой твар”.

Сфармуляваная місія добра працуе ў пытаньнях кіраваньня некаторых арганізацыяў, асабліва ў тых, якія праіснавалі больш за чатыры гады. Яна дае магчымасьць утрымліваць доўгатэрміновую мэту, захоўваць прыярытэтнасьць у дзейнасьці і карпаратыўны дух.

### ЧАГО НЕ ХАПАЕ?

Каротка — прафэсійнасьці. Мэтодыка стратэгічнага кіраваньня сёньня яшчэ ня стала надзённай патрэбай кіраўніка. Пакуль яна ўспрымаецца як цікавая цацка ці даніна модзе. Адсюль — няма пастаяннага працэсу стратэгічнага плянаваньня, які б прыцягваў большую частку супрацоўнікаў да кіраваньня арганізацыяй. Не хапае яшчэ і пэрспэктыўнага бачаньня, якое дазваляла б ставіць аддаленыя мэты. Не хапае ведаў і мэтадалёгіі.

Што ўсьцешвае — энтузіязм, зь якім украінскія прадстаўнікі “трэцяга сэктару” ўсё спрабуюць і ўкараняюць. Нават нягледзячы на “місію за дваццаць хвілінаў”…

**(паводле Майкл Мескон, Майкл Альберт, Франклин Хедоури. Основы менеджмента. Москва, Издательское дело, 1998 г.)**

| Каштоўнасьці | Катэгорыі каштоўнасьцяў | Тыпы мэтаў, якім надаецца перавага |
|---|---|---|
| Тэарэтычныя | ісьціна, веды, рацыянальнае мысьленьне | доўгатэрміновыя дасьледаваньні і распрацоўкі |
| Эканамічныя | практычнасьць, карысьць, накапленьне багацьця | рост, прыбытковасьць, вынік |
| Палітычныя | улада, прызнаньне | агульны аб'ём капіталу, продажу, колькасьць работнікаў |
| Сацыяльныя | добрыя чалавечыя зносіны, прыхільнасьць, адсутнасьць канфлікту | сацыяльная адказнасьць адносна прыбытку, ускосная канкурэнцыя, спрыяльная атмасфэра ў арганізацыі |
| Эстэтычныя | мастацкая гармонія, склад, форма і сымэтрыя | дызайн, якасьць, прыцягальнасьць |
| Рэлігійныя | згода ў Сусьвеце | этыка, маральныя праблемы |

# паграджае падаткам на падатак

## дзяржава арганізацыям, якія падтрымліваюцца TACIS

Алёна Андрэева

**Неадольнае адчуваньне таго, што разам з маразамі на сынаптычным узроўні “крэпчае” маразм на дзяржаўным, не пакідае некаторыя беларускія арганізацыі цягам некалькіх месяцаў. Размова ідзе пра тыя зарэгістраваныя НДА, якія былі падтрыманыя ў рамках праграмы TACIS і ўжо ня першы месяц спрабуюць зразумець, што ім рабіць з атрыманымі грантамі — адразу аддаць назад ці ўсё ж такі паспрабаваць разблытаць падатковыя вымудры, падрыхтаваныя беларускімі дзяржорганамі.**

Агульнавядома, што пэўная колькасьць зарэгістраваных беларускіх грамадзкіх аб’яднаньняў фінансуецца ў межах міжурадавых праграмаў тэхнічнай падтрымкі. З прычыны вядомага палітыка-эканамічнага курсу, якім кіруюцца беларускія ўлады, такіх праграмаў у нашай краіне, мякка кажучы, няшмат. Быў час, калі такія праграмы **не абкладаліся** падаткамі, што **задавальняла** абодва бакі. Быў ды сплыў...

Хутказьменлівае беларускае заканадаўства неаднойчы дэманстравала, як заканадаўчыя акты, датычныя аднаго пытаньня, супярэчаць адзін аднаму. З гэтай нагоды правілы, што датычацца праграмаў тэхнічнай дапамогі, для прадстаўнікоў падатковых органаў не зьяўляюцца нормай наўпроставага дзеяньня, і таму праекты тэхнічнага садзеяньня павінны абкладацца падаткамі.

З гэтага вынікае, што насьпела неабходнасьць прыняцьця дадатковых нацыянальных нарматыўных актаў, якія пацьвярджалі б дзеяньне пагадненьняў. Бо атрымліваецца, што грошы эўрапейскіх падаткаплацельшчыкаў у Беларусі зноў абкладаюцца падаткам — і такі “падатак на падатак” па лёгіцы мусяць плаціць беларускія НДА.

Пра сытуацыю, якая склалася вакол праграмы тэхнічнай дапамогі TACIS у Беларусі, і пра яе магчымыя наступствы для беларускіх НДА мы папрасілі распавесьці **Леаніда Арлова**, выканаўчага дырэктара Каардынацыйнага бюро праграмы TACIS, і **Алену Юркоўскую,** каардынатара праграмы TACIS “Стратэгія разьвіцьця моладзевых арганізацыяў у Беларусі”, якая рэалізуецца “РАДАЙ”.

**Леанід Арлоў**

Праграма TACIS складаецца зь некалькіх буйных блёкаў:

1) Нацыянальныя праграмы, што рэалізуюцца толькі для адной новай незалежнай краіны. У межах гэтых праграмаў для Беларусі рэалізуюцца праекты, скіраваныя на падтрымку сродкаў масавай інфармацыі, грамадзкіх аб’яднаньняў, а таксама адукацыі і навучаньня моладзі.

2) “Шматкраінныя”, якія складаюцца з рэгіянальных праграмаў, праграмаў па транспамежным супрацоўніцтве і па ядзернай бясьпецы; у Беларусі рэалізуюцца праекты па абароне навакольнага асяродзьдзя, па разьвіцьці памежнай інфраструктуры, па пераадоленьні наступстваў аварыі на ЧАЭС. Праграмы малых праектаў, што маюць партнэрскі характар, у межах якіх цяпер наладжана супрацоўніцтва беларускіх унівэрсытэтаў з навучальнымі ўстановамі Эўропы.

Падчас рэалізацыі ўсіх праграмаў зьдзяйсьняецца перадача перадавых ведаў і досьведу з боку эўрапейскіх краінаў.

Умовай прадастаўленьня тэхнічнай дапамогі ў межах праграмы TACIS зьяўляецца поўнае яе вызваленьне ад падаткаў і збораў — гэта грантавая дапамога. Паміж урадам Беларусі і Эўрапейскай камісіяй падпісанае пагадненьне “Агульныя правілы, што прымяняюцца да Мэмарандуму аб фінансаваньні”. Да нядаўняга часу пагадненьне выконвалася. Але з увядзеньнем у дзеяньне новых заканадаўчых актаў пагадненьне стала супярэчыць ім.

З гэтай прычыны каля трох месяцаў таму абвастрылася пытаньне пра вызваленьне праектаў, што рэалізуюцца ў межах праграмы TACIS, ад падаткаў. Нядаўна Эўрапейская камісія ўхваліла 17 новых партнэрскіх праектаў у межах праграмы па транспамежным супрацоўніцтве і ў межах праграмы малых грантаў “Падтрымка грамадзянскай супольнасьці і мясцовых ініцыятываў у Беларусі”. Але да сёньняшняга дня не падпісаныя дакумэнты па фінансаваньні гэтых праектаў, таму што ў выпадку паступленьня грошай на рахункі грантаатрымальнікаў яны (грошы) будуць абкладацца падаткамі.

Зараз вядзецца праца па ўрэгуляваньні канфліктнай сытуацыі. Рыхтуецца Дэкрэт прэзыдэнта, які павінен скасаваць гэтую праблему. Але Дэкрэт мусіць быць падпісаны да Новага году, інакш узьнікнуць праблемы па фінансаваньні ўхваленых праектаў і тых, што ўжо рэа-

лізуюцца на тэрыторыі краіны. У выпадку непадпісаньня гэтага дакумэнту дзейнасьць па праграмах TACIS у Беларусі будзе спыненая.

Мы спадзяемся на станоўчае вырашэньне праблемы, таму што ў супрацоўніцтве Эўрапейскай камісіі і Беларусі зацікаўленыя абодва бакі.

Гэтая сытуацыя не экстраардынарная і не ўнікальная для краінаў былога СССР. Большасьць з праблемаў такога кшталту вырашалася станоўча.

**Алена Юркоўская**

Адным з найбуйнейшых праектаў, што рэалізоўваюцца пры падтрымцы TACIS у межах нацыянальнай праграмы для Беларусі, зьяўляецца “Стратэгія разьвіцьця моладзевых арганізацыяў у Рэспубліцы Беларусь”. Ён ажыцьцяўляецца “РАДАЙ”.

Акрамя таго, TACIS пэрыядычна праводзіць конкурсы малых грантаў. Зусім нядаўна быў праведзены адзін зь іх, і паводле рашэньня Прадстаўніцтва Эўрапейскай Камісіі такія мікрагранты мусяць атрымаць 17 беларускіх НДА. Апошнія ўжо правялі прэсавыя канфэрэнцыі, на якіх абвесьцілі грамадзкасьці пра пачатак дзейнасьці ў межах праектаў, прааналізавалі запланаваныя мерапрыемствы. Але грошы для рэалізацыі праектаў не атрымалі з-за адзначаных абставінаў — пачынаюцца размовы аб выплаце падаткаў.

Напачатку рэалізацыі праекту “Стратэгія разьвіцьця моладзевых арганізацыяў” мы атрымалі афіцыйны адказ зь Міністэрства па падатках і зборах, у якім было ўказана, што мы цалкам вызваляемся ад выплаты падатку на заробак (гэта адзін з найбольшых па памеры падаткаў, які можа выплачвацца падчас рэалізацыі праектаў такога кшталту).

Мы напісалі яшчэ адзін ліст з просьбай вызваліць нас ад выплаты падатку на дадзены кошт і атрымалі адказ, што паводле Мэмарандуму “РАДА”, як і іншыя арганізацыі, падтрыманыя TACIS, не павінна плаціць аніякіх падаткаў. Але ад падатку на дадзены кошт яна не вызваляецца!

Гэты ліст падаўся нам дзіўным і супярэчлівым, менавіта таму мы падрыхтавалі і адправілі чарговы ліст у Міністэрства па падатках і зборах. Плянавалася, што падатак на дадзены кошт мусіць быць выплачаны і будзе вернуты напрыканцы году. Але ў Міністэрстве па падатках нам паведамілі, што мэханізму вяртаньня грошай не існуе. Тады як варыянт мы прапанавалі схему вяртаньня па амэрыканскіх праграмах, што дзейнічаюць на тэрыторыі Беларусі і выкарыстоўваюць гэты мэханізм, у якіх ён прапісаны і дзейнічае. Паводле яго арганізацыя-грантаатрымальнік мусіць напрыканцы году падаць у падатковыя органы, дзе яна зарэгістраваная, усе дакумэнты, у якіх адлюстраванае пералічэньне грошай у бюджэт у якасьці падатку на дадзены кошт. І гэтая сума напрыканцы году мусіць быць вернутая на рахунак арганізацыі зь бюджэту.

Тым часам сытуацыя пачала набіраць абароты, і некаторыя арганізацыі-партнэры праграмы TACIS атрымалі ліст зь Міністэрства па падатках і зборах, падпісаны намесьніцай міністра спадарыняй Кандратавай, які адмяняў дзеяньне папярэдняга ліста аб адмене падатку на заробак. У лісьце было напісана наступнае: “Міністэрства па падатках і зборах спыняе дзеяньне ліста ад 20.06.2002 г. у сувязі з тым, што Міністэрства замежных справаў, Міністэрства юстыцыі і Міністэрства эканомікі па пытаньні вызваленьня ад падаткаабкладаньня грашовых сродкаў, якія атрымліваюцца ў якасьці тэхнічнага садзеяньня праектам па праграме TACIS, выказалі пазыцыю, што перапыненьне індывідуальных ільготаў па праектах магчымае ў парадку, зацьверджаным Дэкрэтам Прэзыдэнта РБ ад 27.02.2001 г. № 6”.

“РАДА” атрымала ліст аб адмене папярэдняга ліста, у той час як астатнія НДА, што вялі перапіску зь Міністэрствам па падатках і зборах, паводле гэтага ліста трапілі ў “падвешанае” становішча. Бо калі браць да ўвагі ўсе міністэрскія лісты, то абсалютна незразумела, каму і які падатак плаціць ці не плаціць.

**Як бачым, сытуацыя вакол праграмы TACIS разгортваецца ва ўлюбёным беларускімі ўладамі жанры — а-ля “дзеравенскі дзецікціў”. Відавочна адно: калі канфлікт ня будзе вырашаны, то спыніцца фінансаваньне па ўхваленых праектах, што зробіць умовы існаваньня пэўнай часткі беларускіх НДА, якія шчыра спрабуюць працаваць адкрыта, катастрафічнымі. Экспэрты цалкам не выключаюць, што можа адбыцца горшае — зьнікне частка айчыннага “трэцяга сэктару”, якая ня мае сталага фінансаваньня зь іншых крыніцаў. Зрэшты, вымушанае замарожваньне праграмы нанясе страту і самой беларускай дзяржаве — аднаму з партнэраў TACIS.**

## даведка

**Праграма TACIS — адна з буйных праграмаў тэхнічнай падтрымкі краінаў СНД і Манголіі, што фінансуюцца Эўрапейскім Зьвязам. Праграма TACIS заключаецца ў дапамозе новым незалежным дзяржавам у пераадоленьні цяжкасьцяў, што ўзьнікаюць на шляху станаўленьня рынкавай эканомікі, дэмакратыі і сцьвярджэньня верхаводзтва закону. Яна фінансуецца Эўрапейскай камісіяй.**

**“Клясычнымі” кампанэнтамі тэхнічнага садзеяньня зьяўляюцца: 1) прадастаўленьне кансультацыяў альбо кансалтынг; 2) адукацыя людзей, што ўдзельнічаюць у рэалізацыі праектаў; 3) набыцьцё абсталяваньня, калі гэта неабходна для дасягненьня мэты праекту; 4) рэалізацыя пілётных праектаў.**

**У Беларусі праграма TACIS дзейнічае з 1991 году. За гэты час рэалізавана 195 праектаў на агульную суму Є140 мільёнаў. Юрыдычнай асновай рэалізацыі праграмы ў нашай краіне зьяўляюцца “Агульныя правілы, датычныя Мэмарандуму аб фінансаваньні ад 10.05.1994 г.”**

# Кампутарны лікбез — у масы!



**Са сьнежня 2002 году Выканаўчае бюро Асамблеі НДА Беларусі ў супрацоўніцтве з IREX\IATP распачала сэрыю сэмінараў для прадстаўнікоў арганізацыяў — сябраў Асамблеі па навучаньні працы зь інтэрнэтам і кампутарнымі праграмамі.**

Па меры атрыманьня заявак фармаваліся групы ўдзельнікаў. Ужо 16 сьнежня ў менскіх IATP-цэнтрах стартавалі першыя тры групы, якія прайшлі навучаньне па наступных тэмах: “Асновы працы ў інтэрнэце”, “Стварэньне ўласнай вэб-старонкі ў інтэрнэце” і “Праца з праграмай PageMaker”. Кожны з гэтых сэмінараў праводзіўся цягам трох дзён. 23 сьнежня прайшоў аднадзённы сэмінар “Праца з праграмай электроннай пошты The Bat”.

Тое, што групы ўдзельнікаў у перапоўненым складзе былі набраныя за вельмі кароткі прамежак часу (10 дзён) сьведчыць, што адукацыя ў гэтым накірунку зараз вельмі запатрабаваная сярод прадстаўнікоў грамадзкіх арганізацыяў Беларусі. **Таму Выканаўчае бюро плянуе працяг набору жадаючых на 2003 год.**

У сувязі з тым, што выдаткі на праезд і пражываньне іншагародніх удзельнікаў не кампэнсуюцца, Выканаўчае бюро дамовілася аб правядзеньні сэмінараў акрамя Менску ва ўсіх IATP-цэнтрах Беларусі: **Гомель, Магілёў, Берасьце, Віцебск, Полацак і Маладэчна.**

Каб зрабіць заяўку на сэмінар, вам трэба патэлефанаваць у Выканаўчае бюро Асамблеі НДА Беларусі па нумарах 225-51-10, 206-59-09 альбо напісаць па электроннай пошце на адрас ngo@user.unibel.by, абавязкова пазначыўшы: тэмы сэмінараў, горад, у якім вы жадаеце прайсьці навучаньне, вашае імя , прозьвішча, арганізацыю, у якой вы працуеце і кантакты, па якіх мы зможам зьвязацца з вамі.

Мы прапануем вам навучаньне па наступных тэмах:

1. Асновы працы з кампутарам.
2. Асновы працы ў інтэрнэце.
3. Стварэньне ўласнай вэб-старонкі.
4. Праца з праграмамі электроннай пошты.
5. Спэцыялізаваныя сэмінары:

1) Вэктарная графіка — Corel, Illustrator, Xara. Магчымасьці вэктарнай графікі, спэцыфіка і магчымасьці пакетаў, творчае заданьне. Праца з web.

2) Растравая графіка — Painter, Pixia, Photoshop. Адрозьненьні задачаў, пакеты для маляваньня і пакеты для рэдагаваньня.

3) Photoshop — філязофія. Знаёмства зь інструмэнтамі, слаямі. Карэктыроўка фатаздымкаў.

4) Папяровая вёрстка — PageMaker, QuarkXpress. Адрозьненьні і падабенствы. Пераход з PageMaker на QuarkXpress. Творчая вёрстка. Заданьне — дзьвюхстаронкавая ўлётка.

5) Беларускі інтэрнэт для вэб-майстра. Інфармацыйныя сайты, каталёгі, пошукавыя сыстэмы, рэйтынгі. Правілы рэгістрацыі, рэкляма.

6) Пакет Acrobat. Стварэньне і рэдагаваньне PDF-файлаў. Стварэньне спасылак, пераходаў, камэнтараў, зьместу. Вывад на друк, аптымізацыя. Зьліцьцё і падзяленьне файлаў.

7) Сканэр і сканаваньне. Тыпы сканэраў, магчымасьці. Выбар сканэраў. Задачы. Распазнаньне тэкстаў, якаснае сканаваньне. Капіяваньне дакумэнтаў.

8) Прафэсійная праца з Word. Вёрстка ў Word. Аўтаматычнае стварэньне зьместу, нумарацыя старонак, калянтытулы. Правілы набору тэксту.

9) Microsoft Access. Стварэньне БД. Формы, запыты, макрасы.

10) Запіс CD, выбар рэкордэру. Праграмы для запісу, тыпы дыскаў, стварэньне музычных дыскаў, мультысэсійныя дыскі, CD-RW, стварэньне загрузачных дыскаў, праграмы для стварэньня інтэрфэйсу.

11) Беларускія банэрныя сеткі.

12) Рэкляма ў інтэрнэце.

13) Пытаньні бясьпекі ў інтэрнэце: антывірусныя сродкі, электронная пошта.

14) Банэры: як стварыць і разьмясьціць.

15) Каскадныя табліцы стыляў (CSS).

16) Web-графіка: прынцыпы аптымізацыі.

17) Паштовая праграма TheBat.

18) Як сабраць кампутар.

19) Праграмнае забесьпячэньне для web-дызайнэра.

20) Пошукавыя рэсурсы: рэгістрацыя і прасоўваньне сайтаў.

21) Дызайн: колерападзел, кампазыцыя.

22) Дызайн для web.

23) Дызайн паліграфічны.

24) Вёрстка: QuarkXpress.

25) Вэктарныя праграмы: маляваньне, вёрстка, Adobe Illustrator, CorelDraw, FreeHand.

26) Painter.

27) Асновы PhotoShop.

28) Фотамантаж у Adobe PhotoShop.

29) Фільтры і эфэкты для Adobe PhotoShop.

30) Маляваньне сродкамі Adobe PhotoShop.

31) Web-графіка і паліграфія ў Adobe PhotoShop.

32) Спэцыяльныя сродкі Adobe PhotoShop: слаі, каналы, шляхі і маскі.

# УСТОЙЛІВАЕ РАЗЬВІЦЬЦЁ: усё, што вы хацелі даведацца “пра гэта”

**У сьнежні гэтага году заканчваецца абмеркаваньне праекту Канцэпцыі ўстойлівага разьвіцьця Рэспублікі Беларусь. Для большасьці само паняцьце “ўстойлівае разьвіцьцё” — гэткае ж зразумела-незразумелае, як, напрыклад, грамадзянская супольнасьць: пастаяннае ўжываньне зрабіла яго пазнавальным зрокава, але бадай што ня сэнсава. Што яно абазначае і чым “чревато” для краіны, у тым ліку для грамадзянскага сэктару, дакладна могуць распавесьці толькі адзінкі.**

**Тым часам Канцэпцыя — гэта своеасаблівы пэрспэктыўны плян эканамічнага, сацыяльнага разьвіцьця краіны. У выпадку зь беларускай канцэпцыяй размова ідзе пра тэрміны да 2020 году — менавіта да гэтага часу разьлічана яе дзеяньне. Не выпадкова, што грамадзкія арганізацыі краіны выступаюць экспэртамі праекту канцэпцыі — згодна з рашэньнем каардынацыйнай рады праекту была створаная працоўная група па выпрацоўцы абагульненай пазыцыі беларускіх НДА ў адносінах да праекту.**

**Ужо першае знаёмства з праектам канцэпцыі, выкладзеным галоўным распрацоўшчыкам Нацыянальнай стратэгіі ўстойлівага разьвіцьця Навукова-дасьледчыцкім эканамічным інстытутам Міністэрства эканомікі РБ на 70-ці (!!!) старонках паказала, што безь “вялікай крыві” тут не абыйдзецца. Гэта дэманструюць і апошнія падзеі, якія разгортваюцца падчас абмеркаваньня праекту ў лягеры грамадзкіх экспэртаў.**

## *устойлівае разьвіцьцё — што гэта?*

Наталя Рабава,
**“Экадом”**

**Час ад часу ў грамадстве нараджаюцца словы-фантомы. Бадай што ў XXI стагодзьдзі, падчас усеагульнай экалягізацыі, словазлучэньне “ўстойлівае разьвіцьцё” можна з поўным правам аднесьці да такіх. З аднаго боку, мала хто разумее, што гэта такое — устойлівае разьвіцьцё: “а што гэта?” ці “ўстойлівае разьвіцьцё чаго?” Хтосьці, пачуўшы тэрмін “устойлівае разьвіцьцё”, скажа: “Ну, гэта пра экалёгію”. Спэцыялісты ж любяць тлумачыць гэтае паняцьце складана і незразумела, любяць пафілязофстваваць па тэме — у выніку абываталь і той зразумее, што пакуль будуць цягнуцца спрэчкі, надыйдзе экалягічная катастрофа. А можа і ня толькі яна.**

Тэрмін “устойлівае разьвіцьцё” ўпершыню зьявіўся больш за дзесяць год таму ў справаздачы камісіі Г.Брунтлянда і быў прыняты ў 1992 г. Сусьветным самітам у Рыа-дэ-Жанэйра, дзе кіраўнікі дзяржаваў абмяркоўвалі глябальныя праблемы, зь якімі сутыкнулася чалавецтва ў другой палове XX стагодзьдзя. Занепакоенасьць грамадзкасьці і ўраду паўплывала на вынікі, зробленыя навукоўцамі Дж.Форэчастэракам і Д.Мэдоўзам пасьля аналізу сучасных тэндэнцыяў разьвіцьця. Паводле іх меркаваньняў, катастрофа непазьбежная, і пачнецца яна да 2030 году — калі чалавецтва не “адумаецца”. Гэты саміт стаўся адліковай кропкай у існаваньні сусьветнага руху за ўстойлівае разьвіцьцё, і менавіта на ім узьнікла ідэя распрацоўкі для кожнай краіны сваёй Нацыянальнай канцэпцыі. За гэтую працу ўзялася і Беларусь, дакладней, беларускі ўрад.

Аднак прайшоў час, і занепакоенасьць грамадзкасьці пайшла на спад. Людзі ня могуць успрымаць тэндэнцыі як падзеі і ня здольныя ўвесь час жыць пад страхам будучых непрыемнасьцяў. Акрамя таго, да гэтага часу многія бачаць праблему ня толькі ў тым, што прыродныя рэсурсы заканчваюцца, прамысловыя выкіды забруджваюць атмасфэру і зьмяняюць клімат. Экалягічны крызыс — хутчэй сымптом хваробы сучаснай цывілізацыі, чым самастойная праблема, якая патрабуе рашэньня мэтадамі “аховы навакольнага асяродзьдзя”. Акрамя парушэньня раўнавагі ў біясфэры існуюць праблемы пагрозьлівых тэмпаў росту колькасьці насельніцтва сьвету, галечы і голаду ў краінах, што разьвіваюцца, звышспажываньня на Захадзе, праблемы эканамічных інтарэсаў і недасканаласьці заканадаўства. Яны не дазваляюць хутка і эфэктыўна перавесьці разьвіцьцё на бясьпечны ўстойлівы шлях.

У кожнай краіне распрацоўваецца свая нацыянальная стратэгія ўстойлівага разьвіцьця. Калі казаць пра яе, то на тэрыторыі былога СССР янаператварылася ў шырокамаштабны праграмны дакумэнт. А як у нас народ ставіцца да Праграмаў Партыі, Пяцігадовых Плянаў і Сямімільных Крокаў, думаю, зразумела бяз словаў.

Вось і ператвараецца паступова “ўстойлівае разьвіцьцё” ў чарговы штамп, які азначае для людзей толькі бессэнсоўныя ініцыяваньні зьверху — “перабудова” ці “паскарэньне” да экалёгіі. А шкада, таму што на гэты раз размова ідзе аб жыцьцёва важных рэчах.

### УСТОЙЛІВАЕ РАЗЬВІЦЬЦЁ - ГЭТА...

Ёсьць некалькі рэчаў, якія неабходна разумець, калі гаворка ідзе аб устойлівым разьвіцьці.

1. Экалягічная катастрофа — не абстрактны прагноз аб аддаленай будучыні, яна ўжо пачалася.

Раўнавага біясфэры нашай плянэты ўжо зрушылася, і мы расплачваемся за гэта сёньня. Працэсы гэтыя могуць стаць невыпраўляльна неабарачальнымі ў любы момант, у бліжэйшыя гады, і вінаваціць нам ня будзе каго, акрамя сябе.

2. Устойлівае разьвіцьцё — гэта ня толькі экалёгія. Каб зьмяніць разбуральныя тэндэнцыі ў разьвіцьці, трэба ўлічваць яшчэ і сацыяльную сфэру, заканадаўства і эканоміку, і працаваць ва ўсіх гэтых накірунках.

3. Устойлівае разьвіцьцё ў адной краіне немагчымае. Усе мы дыхаем агульным паветрам. Сацыяльныя пераўтварэньні, выкліканыя няроўнасьцю, галечай, рэлігійнай нецярпімасьцю і канфліктамі эканамічных інтарэсаў могуць датычыцца і нас, у якім бы спрыяльным, на першы погляд, месцы мы ні знаходзіліся. Праблемы, зь якімі сутыкнулася чалавецтва, глябальныя, і вырашаць іх трэба на глябальным узроўні і разам.

4. Устойлівага разьвіцьця немагчыма дасягнуць толькі шляхам правядзеньня міжнародных канфэрэнцыяў. У верасьні гэтага году адбыўся чарговы Сусьветны саміт па ўстойлівым разьвіцьці, які большасьць удзельнікаў назвалі “самітам прапушчаных магчымасьцяў”. Толькі намаганьнямі “зьверху” нельга дасягнуць “устойлівых” зьменаў. Патрэбная ініцыятыва “зьнізу”. Маецца на ўвазе ня толькі выкананьне кожнай краінай узятых на сябе абавязкаў па ўстойлівым разьвіцьці, але таксама ініцыятыва і зацікаўленасьць мясцовай супольнасьці — жыхароў кожнага гораду, раёну ці вёскі.

Як гэта зрабіць? Праўда ў тым, што ў нас ёсьць усё неабходнае для зьмяненьня сытуацыі ў лепшы бок. Эканамічную зацікаўленасьць у выкарыстаньні прыродных рэсурсаў і забруджваньні навакольнага асяродзьдзя можна зьмяніць шляхам увядзеньня новых сыстэмаў падаткаабкладаньня (напрыклад, рэнтавае падаткаабкладаньне).

Міжнародныя сустрэчы па ўстойлівым разьвіцьці і праблемах навакольнага асяродзьдзя, напэўна, таксама не бессэнсоўныя — узьнікаюць новыя міжнародныя і мясцовыя заканадаўствы, больш спрыяльныя для навакольнага асяродзьдзя і правоў чалавека.

Вядомыя альтэрнатыўныя крыніцы энэргіі. Гавораць, што калі б на іх адаптацыю і дапрацоўку выдаткоўвалася хаця б 10 % сродкаў, што ідуць на фінансаваньне распрацоўкі новых сродкаў узбраеньня, чалавецтва даўно б цалкам перайшло на сонечную энэргію. Існуюць ашчаджальныя мэтады апрацоўкі зямлі, якія захоўваюць урадлівасьць на доўгія гады і не патрабуюць павелічэньня колькасьці хімікатаў.

Створаная “інструкцыя” для пераходу да ўстойлівага разьвіцьця. На ўжо згаданым саміце ў Рыа-дэ-Жанэйра быў прыняты міжнародны дакумэнт “Парадак дня на XXI стагодзьдзе” — фактычны плян дзеяньняў па ўсіх кірунках. Існуюць мэтады прыцягненьня насельніцтва да комплекснага вырашэньня праблемаў сваёй супольнасьці — гэтак званыя “Мясцовыя парадкі дня 21”: патрэбнае “дабро” мясцовых уладаў, моцнае мясцовае самакіраваньне, наяўнасьць грамадзкіх арганізацыяў і добра наладжаная экалягічная адукацыя.

Але праўда таксама ў тым, што час сыходзіць, а зьмяненьняў не заўважна. Перашкаджае інэртнасьць працэсаў разьвіцьця і адсутнасьць асэнсаваньня існуючага становішча, асэнсаваньня пагрозы.

### РОЛЯ ГРАМАДЗКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ

Роля грамадзкіх арганізацыяў у працэсе ўстойлівага разьвіцьця незамяняльная, нават калі вашая арганізацыя ня лічыць сябе экалягічнай (ці, так скажам, прыродаахоўнай). Менавіта вы ўносіце інавацыі ў супольнасьць, зьяўляецеся найактыўнейшай яе часткай. Узгадаем: устойлівае разьвіцьцё — гэта не экалёгія, і, напэўна, менш за ўсё прыборка сьмецьця на асобным сьметніку ці пасадка асобных дрэваў. Устойлівае разьвіцьцё — гэта ўсе сфэры нашага жыцьця і ўсе сфэры дзейнасьці НДА. Застаецца толькі быць адкрытымі для супрацы і вывучыць словы “Мясцовы парадак дня 21”. Зь яго можна зрабіць фармальны, нікому не патрэбны дакумэнт, па якім грамадзкая арганізацыя дасьць справаздачу грантадаўцу па грошах, а гарадзкія ўлады — інстанцыям нацыянальнага маштабу па зробленай працы. А можна зьмяніць жыцьцё вашага гораду да лепшага з дапамогай інструмэнта, які ўжо выкарыстоўваецца сусьветнай супольнасьцю. Нашыя суседзі ў Прыбалтыцы спрабавалі — атрымліваецца.

Устойлівае разьвіцьцё па агульнапрынятых вызначэньнях — гэта толькі “разьвіцьцё, якое дазваляе цяперашняму пакаленьню задавальняць свае патрэбы і не пакідаць пры гэтым наступныя пакаленьні без магчымасьці задаволіць свае”.



# Устойлівае разьвіцьцё ў Беларусі

## Алег Сівагракаў,

**прадстаўнік ПРААН па праекце “Садзейнічаньне ўраду Рэспублікі Беларусь у фармаваньні і рэалізацыі нацыянальнай стратэгіі ўстойлівага разьвіцьця”:**

— У 1997 годзе ў Беларусі была прынятая першая Нацыянальная стратэгія ўстойлівага разьвіцьця. Дакумэнт зацьвердзіла Нацыянальная камісія па ўстойлівым разьвіцьці, што была створаная пры ўрадзе краіны.

Пяць год стратэгія праляжала на паліцы, а крыху больш за год таму было прынятае рашэньне аб выпрацоўцы новай стратэгіі ўстойлівага разьвіцьця Беларусі да 2020 году з улікам новых беларускіх рэаліяў. У гэтай працы ўраду краіны, на якім ляжаць абавязкі пасьля канфэрэнцыі ў Рыа, як практычную, так і фінансавую дапамогу аказвае ПРААН. Паколькі асноўным распрацоўшчыкам стратэгіі ўстойлівага разьвіцьця краіны да 2020 году зьяўляецца Навукова-дасьледчы інстытут пры Міністэрстве эканомікі, а штат гэтай установы ня мае кадраў, дасьведчаных у экалёгіі ці абароне навакольнага асяродзьдзя, і тым больш у сацыяльным кірунку (тут мы маем на ўвазе разьвіцьцё дэмакратыі, правоў чалавека і грамадзянскай супольнасьці), то, выконваючы патрабаваньні “Парадку дня на XXI стагодзьдзе”, мы спрабуем зрабіць так, каб найактыўнейшы ўдзел у распрацоўцы стратэгіяў і канцэпцыяў бралі грамадзкія арганізацыі і ўсе тыя, каму ёсьць што сказаць.

## Ірына Сухій,

**старшыня ГА “Экадом”, сябра Каардынацыйнага савету праекту “Садзейнічаньне ўраду Рэспублікі Беларусь у фармаваньні і рэалізацыі нацыянальнай стратэгіі ўстойлівага разьвіцьця”:**

— Тое, што распрацаваны ў 1997 годзе стратэгічны плян праляжаў на паліцы, — добра, бо ён быў надта падобны да савецкай “пяцігодкі” і выкананы ў “лепшых” традыцыях савецкіх часоў. Што тычыцца таго дакумэнту, над якім вядзецца карпатлівая праца зараз, — праект Нацыянальнай канцэпцыі ўстойлівага разьвіцьця, — то пакуль рана казаць, якім ён будзе, бо ўмовы, у якіх даводзіцца працаваць нам, прадстаўнікам грамадзкіх арганізацыяў і сябрам грамадзкага кансультацыйнага органа, скажам так, не зусім прымальныя. Бо ў Палажэньні аб грамадзкім кансультацыйным органе прапісана, што на абмеркаваньне дакумэнтаў і іх асобных частак павінна адводзіцца дастатковая колькасьць часу. Пакуль гэта не выконваецца, усе ахвотныя не пасьпяваюць пракансультавацца ў спэцыялістаў у тых галінах, у якіх кожны з нас адчувае недахоп ведаў.

Падрыхтаваны праект Нацыянальнай канцэпцыі ўстойлівага разьвіцьця — гэта таксама дакумэнт, які не адпавядае сваёй назве. Канцэпцыя для ўсёй краіны павінна па аб’еме займаць да 30 старонак, у нас толькі праект займае 77! Такі дакумэнт мусіць быць даступны і зразумелы кожнаму грамадзяніну, а мова, якой напісаны беларускі праект, наагул цяжказразумелая.

Праца над Нацыянальнай стратэгіяй устойлівага разьвіцьця — добрая магчымасьць для НДА паказаць, што “трэці сэктар” — не “грантасосы”, што ўзровень нашых ведаў часам вышэйшы за ўзровень дзяржчыноў, акрамя таго гэта найвыдатнейшы досьвед супрацы “першага” і “трэцяга” сэктараў. Але ж тут таксама ўзьнікаюць пэўныя непаразуменьні ў пляне таго, што дзяржава не прымае нейкіх найноўшых тэхналёгіяў, а НДА ў сваёй большасьці пакуль што далёкія ад тэмы ўстойлівага разьвіцьця, яны ня ведаюць, што гэта такое, як гэта можна выкарыстоўваць. Менавіта таму, на мой погляд, у грамадзкі кансультацыйны орган уваходзіць усяго 26 арганізацыяў. Слуханьні, якія праводзяцца па нацыянальнай канцэпцыі, адкрытыя, на іх могуць трапіць усе ахвотныя, грамадзкі кансультацыйны орган — таксама адкрытая структура, таму ўсе могуць далучацца.

Часта ж атрымліваецца так, што арганізацыя ўваходзіць у гэты орган, а наведвае ўсяго адно паседжаньне і потым толькі “стаіць на ўліку”.

# што думаюць наконт нацыянальнай стратэгіі ўстойлівага разьвіцьця экспэрты

Тацяна Клімава
БелНДЦзем,
сябра Каардынацыйнага савету праекту “Садзейнічаньне ўраду Рэспублікі Беларусь у фармаваньні і рэалізацыі нацыянальнай стратэгіі ўстойлівага разьвіцьця”

**ПАВОДЛЕ ECOINFORM-EXPRESS**
**мова арыгіналу захаваная**

У меня есть сложившееся представление о структуре и содержании таких документов как «Концепция устойчивого развития» и «Стратегия устойчивого развития», свободных от ведомственных наворотов и не растаскивающих развитие по частям. Насколько я понимаю, силы, способные к написанию и изданию таких документов, сегодня в Беларуси крайне слабы, по крайней мере в недостаточной степени объединены, каждый занят своим делом.

Давать принципиальные предложения методического порядка или по изменению структуры и содержания и даже редакционные в «Концепцию...» бессмысленно, поскольку она уже одобрена ведомством (Постановлением Коллегии Министерства экономики Республики Беларусь от 1 ноября 2002 года, протокол N29) как плановая финансируемая работа подведомственного института, принятая заказчиком. Таким образом, если кто-то не согласен с прописанными в данном документе положениями в редакции целого института, по крайней мере большой группы разработчиков, фамилии которых скромно умалчиваются, и Коллегией Министерства экономики, то речь должна идти не об исправлениях, замечаниях, дополнениях применительно к данному документу, а о другом документе, определяющем весь комплекс проблем устойчивого развития нашей страны, возможности проработки этих проблем и возможности их решения на основе стратегии устойчивого развития.

Общественный Консультативный орган (ОКО) протоколом от 22 ноября отделался общими фразами и признал рассматриваемый документ. А если бы не признал, так что бы изменилось? А коль признал, так зачем после того, как документ одобрен, его редактировать?

Члены Координационного совета Проекта (КСП) получили текст «Концепции...» 25 ноября (некоторые за несколько дней по электронной почте). По решению КСП две недели (до 6 декабря) отводилось на сбор замечаний и предложений, но где, у кого? Вроде бы создали инициативную группу, но Н.Трифонов как член этой группы вместо того, чтобы принести в нее свои предложения и, может быть, обсудить и создать нечто общее от ОКО и КСП, направил их директору института.

Предположим, что ОКО поставил целью предложить некоторые изменения в «Концепцию...» и измененный документ внести от имени... (группы организаций или частных лиц, может быть от имени ОКО или КСП) в Национальную комиссию по устойчивому развитию. Но кто и за какие средства будет это делать? Или скинем все в институт, и пусть они рассматривают или не рассматривают, принимают или не принимают, делают или не делают иную редакцию для иного назначения и сами отдадут в Национальную комиссию, никому не показав? Опять «привяжемся» к 2020 году, будем говорить об «устойчивом социально-экономическом развитии” и как пони будем бегать по кругу (ведь методические рекомендации одобрили).

Должна сказать, что во многих странах (например, в Грузии и Эстонии) Концепции и Стратегии УР разрабатывают сильные общественные структуры, правда, финансируемые в значительной доле из-за границы, но в относительно меньшей доле и своим правительством. Содержание же таких материалов коренным образом отличается от рассматриваемого. По крайней мере понятно, о чем пишут и что хотят сделать и даже к чему это приведет.

Предложив образовать группу по обобщению предложений и замечаний и по поручению КСП войдя в такую группу, я с полной ответственностью внимательно, с карандашом в руках, прочла материал «Концепции...» и подготовила текст (на 6 стр. шрифтом 10) замечаний и конкретных предложений в привязке к структуре документа как подсказку для себя (для ориентации) с тем, чтобы эту заготовку можно было обсудить в группе по обобщению предложений и замечаний или с разработчиками. Кроме того, у меня сформировался список редакционных правок текста, а также перечень как сокращений текста, так и небольших добавлений.

Как к члену КСП и группы по обобщению предложений и замечаний ко мне по состоянию на 7 декабря не обратился ни один человек. Свои же замечания и предложения до их обсуждения в группе или с разработчиками выносить в электронную почту считаю некорректным. К тому же «латать» текст «Концепции...» смысла нет, желательно писать заново. Полностью согласна с комментариями «Экодома».

Похоже, что не умели или разучились коллективно вырабатывать мнения, формулировки или работать над текстами. Это и есть главный признак неустойчивости применительно к данному случаю, когда не можем устойчиво работать по устойчивому развитию.

д а в е д к а

**Пазнаёміцца з тэкстам праекту Канцэпцыі ўстойлівага разьвіцьця Беларусі на пэрыяд да 2020 году можна, наведаўшы сайт Прадстаўніцтва ААН у Беларусі:**
**http://www.un.minsk.by/news/news_index_ru.htm**
**http://www.un.minsk.by/undp1/doc_ru.htm**
**http://www.un.minsk.by/dpi/docun/other.htm**

**“БЮЛЕТЭНЮ” — ГОД!**

# Аднаўлены і Абнаўлены

Менавіта ў сьнежні мінулага году выйшаў першы пасьля паўгадовага перапынку “Бюлетэнь”. “Пасьляпрэзыдэнцкая дэпрэсія”, нясправўджаныя надзеі, пачуцьцё падманутасьці — гэта тое, чым “дажываў” беларускі “трэці сэктар” напрыканцы 2001 году. Яшчэ адзін крок — і можна было б памахаць рукой “апалягетам грамадзянскай супольнасьці”, — балазе, сілаў у нашых “энжэошнікаў” хопіць не на адзін рэжым.

Дзякуючы паразе стала відавочна, што сытуацыя сама сабой ня зьменіцца — трэба гэтымі самымі рукамі працаваць, каб зьмяніцца і зьмяніць грамадзтва.

Перад камандай, якая ўзялася за аднаўленьне “Бюлетэня”, стаяла галоўная мэта — зрабіць часопіс для і пра беларускія грамадзкія арганізацыі і ініцыятывы. Часопіс, які будуць чытаць як сябры Асамблеі, так і шараговыя прадстаўнікі “трэцяга сэктару”, абсалютна розныя па ўзросьце, рэлігійных, палітычных поглядах людзі — людзі, якія сядзяць у розных акопах (але па адзін, здаецца, бок барыкадаў). Варта было зрабіць часопіс, які будзе зразумелым для ўсіх — бяз штучнага патасу, непатрэбных “сюсюканьняў”, і самае галоўнае — трэба было зрабіць часопіс максымальна карысным.

Думак і памкненьняў было вельмі шмат, ці спраўдзіліся яны — гэта іншае пытаньне. І менавіта яго мы адрасавалі вам, нашыя чытачы.

Будзем удзячныя, калі вы знойдзеце час і магчымасьць адказаць на анкету, якая зьмешчаная ніжэй. Калі ня знойдзеце, то гэта таксама ваш выбар — папросту пачытайце экспрэсапытаньне сябраў грамадзкіх арганізацыяў наконт новага “Бюлетэня”.

Хацелася б выказаць падзяку ўсім аўтарам нашага часопіса, безь якіх такога выданьня папросту не было б. І, безумоўна, мы будзем радыя новым аўтарам, вашым карэспандэнцыям, заўвагам.

...Дарэчы, калі больш дакладна, “Бюлетэню” Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі напачатку зімы 2002 г. спаўняецца пяць год. Як і Асамблеі, як і Выканаўчаму бюро...

З надыходзячымі Калядамі і Новым годам!

**З павагай, рэдактар “Бюлетэня”**
**Сяргей Сахараў**

**1. На Ваш погляд, ці зьмяніўся за апошні год “Бюлетэнь”? Калі зьмяніўся, у які бок?**
**2. Якія матэрыялы і тэмы Вам найбольш запомніліся (спадабаліся)?**
**3. На якія тэмы, на Ваш погляд, варта зьвярнуць больш увагі?**
**4. Якія матэрыялы было б цікава ўбачыць у “Бюлетэні” асабіста Вам?**

???

**Вітаўт Руднік,**
**ГА “Цэнтар “Трэці сэктар”**

1. На мой погляд, “Бюлетэнь” за апошні год зьмяніўся ў лепшы бок. У аднаўленым “Бюлетэні” зьявілася больш аналітычных матэрыялаў, палепшылася іх якасьць. Часопіс цяпер выглядае менавіта так, як мусіць выглядаць часопіс Асамблеі НДА — я маю на ўвазе і канцэпцыю, і мастацкае афармленьне.

2. Найбольш удалымі былі матэрыялы пра пасьпяховую дзейнасьць арганізацыяў. Усьцешвае тое, што такіх матэрыялаў было багата.

3. Я думаю, увагу трэба зьвяртаць не на тэмы, а на людзей, што непасрэдна выконваюць “трэцясэктараўскія” справы, на іх праблемы. Чым больш людзей, тым больш чытачоў.

4. Хацелася б пабачыць больш аналітыкі з рэгіёнаў, максымальна не-суб’ектыўнай. На мой погляд, “трэці сэктар” Беларусі зараз у заняпадзе, і калі гэтыя матэрыялы пераканаюць мяне ў адваротным, я буду толькі шчасьлівы.

**Аліцыя Шыбіцкая,**
**ГА “Аб’яднаны шлях”**

1. Зьмяніўся ў лепшы бок. Інфармацыя апэратыўная і цікавая.

2. Нашую арганізацыю цікавяць матэрыялы з правінцыі, яны нам неабходныя для нашай працы.

3. “Бюлетэнь” нармальна збалянсаваны, з тэмамі ўсё ў парадку.

4. Міжнародную інфармацыю ў нашай арганізацыі адсочваюць добра, а вось зь мясцовымі праблемамі НДА ў нас ня ўсё ОК. Таму і ў наступным годзе хацелася б атрымліваць Ваш “Бюлетэнь”.

Вы робіце добрую справу, жадаю Вам посьпехаў у 2003 годзе.

**Сьвятлана Каралёва, ГА “Жаночы адказ”**

1. За апошні год “Бюлетэнь” не зьмяніўся. Ён заўжды быў добрым часопісам.

2. У “Бюлетэні” мне вельмі падабаецца рубрыка “Юрыдычная кансультацыя”. У ёй падаецца вельмі карысная і неабходная для беларускіх НДА інфармацыя. Апрача таго, вельмі спадабаўся спэцвыпуск, прысьвечаны кампаніі “Зробім лепш!”.

3. Так адразу я не магу сказаць, якім тэмам трэба надаваць больш увагі. Але наконт “Бюлетэня” мне хочацца сказаць, што гэта адзінае пэрыядычнае выданьне, цалкам прысьвечанае “трэцяму сэктару”. Менавіта таму вам трэба даводзіць свой наклад да 2 500 асобнікаў і рас-

сылаць усім НДА краіны, нават прадзяржаўным. Інфармацыя, што публікуецца ў "Бюлетэні", павінна даходзіць да ўсіх грамадзкіх арганізацыяў.

4. У наступным годзе "Бюлетэню" трэба зьвярнуць больш увагі на ролю жанчынаў у грамадзкім сэктары, бо палітыку ва ўсім зараз робяць (пакуль яшчэ несьвядома) жанчыны. Менавіта таму зьвяртайце больш увагі на жанчынаў.

**Ірына Алейнік,**
**Прадстаўніцтва Сусьветнага Банку ў Беларусі**

1. На жаль, да мяне ў рукі трапілі толькі апошнія два нумары вашага часопіса.

2. Навіны з рэгіёнаў, акцыі па-за межамі Менску.

3. Пасьпяховыя прыклады супрацоўніцтва розных структураў і арганізацыяў.

4. Разьвіцьцё мясцовых супольнасьцяў і вырашэньне праблемаў сродкамі рэгіёнаў без замежных грантаў і міжнародных праграмаў.

**Дзьмітры Станюта,**
**рэдактар бюлетэня "Новы рэсурс" (САР)**

1. Па апублікаваных у 2001-2002 гг. зьвестках, прэса грамадзкіх арганізацыяў і ініцыятываў — гэта 119 выданьняў, зарэгістраваных у Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь, а таксама каля 360 бюлетэняў, газэтаў і часопісаў з накладам да 300 асобнікаў, якія з гэтай прычыны не патрабуюць рэгістрацыі. На жаль, падчас працы па складаньні "Даведніка прэсы грамадзкіх аб'яднаньняў і ініцыятываў" стала зразумела, што "жывых" і гатовых да таго, каб заявіць пра сябе ў даведніку выданьняў па стане на канец бягучага году значна менш — каля 170. Вельмі шмат з тых выданьняў, якія рабіліся на энтузіязме рэдактараў і ў межах праектаў, зачынілася альбо прыпыніла выхад з-за адсутнасьці грошай. Але менавіта гэтая прэса, на маю думку, можа і жадае служыць станаўленьню ў нашай краіне грамадзянскай супольнасьці.

"Бюлетэнь" — неад'емная частка гэтай плыні. У маім рабочым стале захоўваецца асобнік яшчэ таго, ранейшага "Бюлетэня" 1999 году. Я рады, што ён быў адноўлены, што яго стваральнікі адчуваюць неабходнасьць існаваньня выданьня, што праз "Бюлетэнь" адбываецца інфармаваньне ўсіх сябраў Асамблеі і больш шырокай публікі. Выданьні, якія служаць грамадзянскай супольнасьці, не павінны паміраць!

Безумоўна, часопіс зьмяніўся, бо немагчыма не разьвівацца ў такім зьменлівым і, на жаль, няўстойлівым асяродзьдзі, як "трэці сэктар". Зьявілася тэматызацыя, узбагаціўся зьмест. Я лічу, што зьмены адбыліся ў бок больш дэтальнай распрацоўкі аднойчы заяўленых напрамкаў, у бок адукацыйнага накірунку, спэцыялізацыі і арыентацыі на мэтадалягічны падыход да асэнсаваньня рэаліяў "трэцяга сэктару".

2. Спадабаўся, у прыватнасьці, матэрыял Алеся Бяляцкага "Дваццаць год таму" пад рубрыкай "Memory" у жнівеньскім нумары — у беларускай грамадзкай дзейнасьці ўжо ёсьць хоць і найноўшая, але гісторыя. Часам вяртаньне да memory робіцца вяртаньнем да вытокаў, да высокіх ідэалаў і бескарысьлівасьці, на якія зараз пачалі забывацца.

Падабаецца сэрыя артыкулаў — аглядаў дзейнасьці грамадзкіх арганізацыяў і ініцыятываў пэўнага рэгіёну Беларусі, напрыклад, матэрыял пра Віцебшчыну ў апошнім нумары. Як чытач, я адчуваю патрэбу бачыць становішча ў "трэцім сэктары" рэгіёну вачамі тых, хто "ў тэме".

3. Як я адчуў з апошняга нумару, "Бюлетэнь" лічыць мэтазгодным разабрацца, што такое сеткі і кааліцыі. Буду рады прачытаць пра гэта менавіта ў "Бюлетэні", таму што тады больш канкрэтным зробіцца бачаньне Асамблеі з боку тых чытачоў, арганізацыі якіх у яе ўваходзяць/уваходзілі.

4. Чакаю болей гісторыяў канкрэтнага чалавека. Гісторыяў пра тых, чыё жыцьцё зьмянілася з прычыны іх далучанасьці да грамадзкай актыўнасьці. Гісторыяў ад чытачоў, чытацкіх лістоў і меркаваньняў.

Чакаю таксама сутыкненьня поглядаў, розных пунктаў гледжаньня па адной пэўнай тэме ці праблеме. Чакаю выказваньняў ад вядомых у краіне людзей мастацтва і культуры, ад навукоўцаў, дасьледчыкаў, інтэлектуалаў, інтэлігенцыі. А таксама ад моладзі, яе куміраў і лідэраў — хай блісནуць са старонак "Бюлетэня" якія-небудзь "зоркі", "эліта". Хай зробяць больш чалавечым яго зьмест розныя энтузіясты, дзівакі і апантаныя вар'яты, якіх нямала ў "трэцясэктарнай" тусоўцы.

Жадаю "Бюлетэню" зарэгістравацца, павялічыць наклад і ўдала прадавацца. Хай яго адкрыюць для сябе тыя, хто нават яшчэ нічога ня ведае пра грамадзкую актыўнасьць.

**Алесь Мілінкевіч, ГА "Ратуша"**

1. "Бюлетэнь" стаў адным зь лепшых сярод таго, што робіцца сёньня ў "трэцім сэктары". Пры ўсёй занятасьці я яго чытаю фактычна цалкам. Добры дызайн, цікавы, карысны і разнастайны зьмест.

2. Кампанія "Зробім лепш!", аргразьвіцьцё, кансультацыі.

3,4. Тэмы супрацоўніцтва трох сэктараў, іміджу NGO, лябіяваньня інтарэсаў грамадзкіх аб'яднаньняў.

# А Н К Е Т А

*Гэтая анкета адрасаваная кожнаму чытачу "Бюлетэня" ў вашай арганізацыі.*

**Назва арганізацыі___________________________ Горад______________________**

**Колькасьць сябраў_____________________ Колькасьць штату________________**

**Накірунак дзейнасьці ____________________________________________________**

**Год фактычнага (не юрыдычнага) заснаваньня арганізацыі_________________**

**Ваш узрост _________ Пол ________ Адукацыя_____________________________**

**Стаж працы ў НДА__________**

**Пасада і\ці спэцыяльнасьць у арганізацыі __________________________________**

**Колькі чалавек з Вашай арганізацыі чытае "Бюлетэнь"?**

**Ці зьмяніўся, на Ваш погляд , "Бюлетэнь" за апошні год?**
- Не зьмяніўся
- Стаў лепшы (што канкрэтна Вам спадабалася)
- Стаў горшы (што канкрэтна Вас раздражняе)
- Я чытаю "Бюлетэнь" менш за год

**Матэрыялы якіх рубрыкаў падаліся Вам найбольш цікавымі?**
- арганізацыйнае разьвіцьцё
- адукацыя
- юрыдычныя кансультацыі
- навіны менскіх арганізацыяў
- навіны рэгіянальных арганізацыяў
- грошы
- супрацоўніцтва з замежнымі арганізацыямі
- грамадзкія акцыі і кампаніі
- сацыялягічныя апытаньні

**Якія рубрыкі Вы хацелі б дадаць у "Бюлетэнь"?**

**Кожны з нумароў "Бюлетэня" за апошні год быў прысьвечаны пэўнай тэме. Якія тэмы Вам запомніліся?**

**Нумары, прысьвечаныя якім тэмам падаліся Вам найбольш удалымі?**

**Нумары, прысьвечаныя якім тэмам падаліся Вам найбольш няўдалымі?**

**Якой тэме зь яшчэ нявыкарыстаных, на Ваш погляд, мае сэнс прысьвяціць адзін з наступных нумароў "Бюлетэня"?**

**Калі ласка, узгадайце адзін ці некалькі артыкулаў, якія Вам спадабаліся.**

**Калі ласка, узгадайце адзін ці некалькі артыкулаў, якія Вам не спадабаліся.**

**Калі б "Бюлетэнь" пачаў распаўсюджвацца па платнай падпісцы, ці стала б Вашая арганізацыя яго выпісваць?**
- Так (колькі павінна каштаваць падпіска на год? ___________)
- Не (Чаму? ____________________________________________)

# Супольнасьць дэмакратыяў: сусьветны НГА— форум у Сэуле

Улад Вялічка,
**выканаўчы дырэктар ГА «Адукацыйны цэнтар «ПОСТ»**

**Час няўмольны: надыходзіць 2003 год, а “беларускі малюнак” за акном ня надта зьмяніўся за апошнія 7 гадоў. Гэта тычыцца і айчыннага “трэцяга сэктару”: дзякуючы існуючай у краіне сацыяльна-палітычнай сытуацыі і сёньняшняму іміджу Рэспублікі Беларусь у вачах міжнароднай супольнасьці НГА-сэктар** [НГА — недзяржаўныя грамадзкія арганізацыі] **застаецца ізаляваным ад агульнасусьветных працэсаў. Аднак з кожнага правіла ёсьць выключэньні: у лістападзе гэтага году ў Сэуле (Паўднёвая Карэя) адбыўся НГА-Форум “Супольнасьць дэмакратыяў” — адно з самых прадстаўнічых мерапрыемстваў у сьвеце, на якое былі запрошаныя і кіраўнікі беларускіх грамадзкіх арганізацыяў.**

Форум быў другім па ліку (першы адбыўся ў Польшчы ў 2000 годзе) і сабраў каля 300 удзельнікаў — прадстаўнікоў разнастайных недзяржаўных арганізацыяў з больш як 70 краінаў. Адметнай асаблівасьцю мерапрыемства стаўся ўдзел у ім шэрагу сусьветна вядомых асобаў — былога дзяржсакратара ЗША Мадлен Олбрайт, мэцэната і заснавальніка Інстытуту “Адкрытае грамадзтва” Джорджа Сораса, былога міністра замежных справаў Польшчы Браніслава Герэмэка, а таксама значнай колькасьці кіраўнікоў разнастайных замежных і міжнародных фондаў і арганізацыяў. Адкрываў Форум Прэзыдэнт Паўднёвай Карэі Даэ-Юн Кім, які выказаў вялікую зацікаўленасьць у працы Форуму менавіта ў гэтай краіне.

Разам з аўтарам гэтага артыкула Беларусь на Форуме прадстаўляла адвакат Вера Страмкоўская (Цэнтар правоў чалавека) — дарэчы, асабіста мы змаглі пазнаёміцца толькі ў Сэуле.

Адной з асноўных працоўных частак Форуму на працягу трох дзён былі пленарныя паседжаньні, на якіх аўтарытэтныя і знакавыя асобы выступалі з дакладамі пра важнасьць пабудовы дэмакратыі ў сьвеце. Трэба адзначыць, што зьмест і характар большасьці гэтых выступаў былі вельмі далёкія ад паўсядзённых праблемаў арганізацыяў, што займаюцца пабудовай дэмакратыі ў сваіх краінах, і наўрад ці могуць разглядацца як інструкцыя да дзеяньняў. З другога боку, выступы Сораса, Олбрайт і іншых мелі значны палітычны кантэкст і вызначалі асноўныя вэктары і тэндэнцыі ў падыходзе да праблемы разьвіцьця дэмакратыі ў сьвеце з пункту погляду найбольш моцных краінаў і супольнасьцяў сусьвету.

Здаецца, найбольш цікавымі і карыснымі часткамі Форуму сталі тэматычныя ўоркшопы, прысьвечаныя розным аспэктам пабудовы дэмакратыі (“Дэмакратыя ў закрытых грамадзтвах”, “Грамадзянская адукацыя”, “Рынак і дэмакратычнае кіраваньне” і г.д.), а таксама рэгіянальныя круглыя сталы, дзе абмяркоўваліся праблемы і пэрспэктывы дэмакратычнага разьвіцьця макра-рэгіёнаў (Эўропа, Азія, Лацінская Амэрыка і г.д.). Менавіта падчас працы ў больш шчыльных групах удалося абмяняцца думкамі, усталяваць карысныя кантакты і пашукаць пэрспэктыўныя ідэі на будучае.

Не выпадкова, што па часе і месцы правядзеньня Форум супаў з Канфэрэнцыяй міністраў замежных справаў больш як 90 краінаў, якая была прысьвечаная тым жа пытаньням пабудовы дэмакратыі. Па зразумелых прычынах беларускай дэлегацыі на гэтай Канфэрэнцыі не было, нават сярод назіральнікаў, у статусе якіх знаходзілася значная колькасьць прадстаўнікоў краінаў былога СССР.

Удзел беларусаў у Форуме быў дастаткова пасьпяховым і прыкметным. Дзякуючы намаганьням Веры Страмкоўскай удзельнікі мерапрыемства пазнаёміліся са становішчам, у якім знаходзяцца правы чалавека і дэмакратыя ў Беларусі, а таксама падпісалі агульную пэтыцыю ў падтрымку палітычных дзеячоў і журналістаў, што зьніклі ў Беларусі. Пэтыцыя стала адным з выніковых дакумэнтаў Форуму.

Падчас працы ў межах уоркшопаў і круглых сталоў зрабілася магчымым ня толькі прадставіць праўдзівы малюнак сытуацыі з дэмакратыяй у Беларусі, але і знайсьці зацікаўленыя арганізацыі і краіны ў якасьці патэнцыйных партнэраў для далейшай сумеснай працы.

Разам з тым неабходна адзначыць, што на Форуме былі прадстаўленыя краіны, дзе сытуацыя з правамі чалавека і пэрспэктывы дэмакратыі выглядаюць значна больш цяжкімі і складанымі, чым у нас. Як той казаў, усё спазнаецца ў параўнаньні.

У якасьці агульных вынікаў працы Форуму разам з пакетам пэтыцыяў, заяваў і іншых дадатковых дакумэнтаў, падпісаных удзельнікамі, была таксама прынятая Агульная справаздача. У ёй у якасьці рэкамэндацыяў для нацыянальных урадаў, парлямэнтаў, палітычных партыяў і супольнасьцяў былі вызначаныя сучасныя прыярытэты і канкрэтныя крокі, якія неабходна зрабіць для ўмацаваньня дэмакратычнага ладу жыцьця і спосабу дзеяньня, акрэсьленыя падчас працы ўоркшопаў. Было таксама вырашана, што вынікі працы круглых сталоў таксама знойдуць сваё месца ў агульнай выніковай справаздачы.

# Тэзы пленарнага паседжаньня

# Дэмакратыя і разьвіцьцё

**Старшыня**: Ідзумі Накаміцу Ленартсан (загадчык аддзелу плянаваньня, Міжнародны інстытут дэмакратыі і дапамогі на выбарах, Японія)

**Выступоўцы**: Джанг Ок Лі (прафэсар Каталіцкага ўнівэрсытэту Тэгу, Карэя), Амар Наман (намесьнік дырэктара аддзелу справаздачы па разьвіцьці, Праграма разьвіцьця ААН, Пакістан), Сурын Пітсуван (сябра Парлямэнту, былы міністар замежных справаў, Тайланд), Джорж Сорас (старшыня Інстытуту "Адкрытае грамадзтва", ЗША).

Па словах старшыні Ідзумі Накаміцу Ленартсана задача дадзенай пленарнай дыскусіі, якая тычылася сувязі паміж дэмакратыяй і разьвіцьцём краінаў, заключалася ў тым, каб паспрабаваць вызначыць аспэкты дэбатаў, што патрабуюць далейшага разгляду. Адным зь іх сталі г.зв. "азіяцкія каштоўнасьці" — яны апраўдваюць лідэраў, якія не праводзяць працэсы дэмакратызацыі з-за страху спыніць эканамічнае разьвіцьцё. Практычна краіны з дэмакратычным ладам дасягнулі эканамічнага разьвіцьця, але пры гэтым расьце працэнт бедных людзей, існуе вялікая розьніца паміж сацыяльнымі слаямі. Відавочна, што фармальныя кампанэнты дэмакратыі — грамадзянскія правы, свабодныя выбары і ўсталяваньне дэмакратычных інстытутаў — ня могуць забясьпечыць моцнага і стабільнага разьвіцьця такіх краінаў.

## ПАДСУМАВАНЬНІ ВЫСТУПАЎ

**Амар Наман**

Паступова склалася ўяўленьне пра дэмакратыю як аб працэсе, які перашкаджае эканамічнаму разьвіцьцю. Тым ня менш у якасьці прыкладу можна ўзяць Карэю, дзе стабільны эканамічны рост прысутнічае ва ўмовах дэмакратыі. У Паўднёвай Азіі (напрыклад, у Індыі і Шры-Ланцы, у адрозьненьні ад Пакістану) таксама можна назіраць выпадкі добрага эканамічнага разьвіцьця дэмакратычных краінаў. У той жа час дэмакратыя аб'ядноўвае краіны, гістарычна пацярпелыя ад нестабільнасьці.

Існуюць чатыры тыпы дэмакратычных дэфіцытаў: непапулярныя дэмакратыі, рост сацыяльнай несправядлівасьць, дэмакратычны аўтарытарызм, а таксама ўплыў грошай на палітыкаў. Непапулярныя дэмакратыі характарызуюцца выключэньнем меншасьцяў з выбарчага працэсу. Павелічэньне беднасьці і пашырэньне розьніцы паміж клясамі выклікае рост сацыяльнай несправядлівасьці. Дэмакратычна абраныя лідэры часам праводзяць аўтарытарную палітыку ў дэмакратычным грамадстве. Нават у самых разьвітых дэмакратыях карпаратыўная ўлада мае вельмі моцны ўплыў на дэмакратычныя працэсы.

**Джанг Ок Лі**

Тэрарызм, мілітарызм, карупцыя, фундамэнталізм, расізм і патрыярхат аслабляюць дэмакратыю. Калі мы разглядаем дэмакратыю як неабходную для разьвіцьця ўмову, чаму застаюцца недэмакратычныя рэжымы і культуры? Разрыў паміж сацыяльнай элітай і звычайнымі людзьмі пашыраецца. Таксама існуе розьніца паміж эндагеннай і экзагеннай дэмакратыямі. Апошняя тычыцца краінаў, у якіх дэмакратыя была прынесеная з боку, а эндагенная разьвівалася на пэўнай тэрыторыі сама. Дэмакратыя патрабуе сыстэмы супрацоўніцтва і ўзаемадапамогі. Сьвет можа паляпшацца толькі праз пашырэньне і падтрымку дэмакратыі. Толькі шляхам узаемнага ўдзелу і зацікаўленасьці мы можам выхаваць дэмакратычна накіраваных людзей. Няўрадавыя арганізацыі павінны займацца грамадзкім разьвіцьцём, якое мусіць ісьці побач з сацыяльным і эканамічным. Праз дэмакратыю дасягаецца бясьпека.

**Джордж Сорас**

Сп. Сорас пажадаў, каб супольнасьць дэмакратыяў перайшла з аналізаваньня да дзеяньняў і прапанаваў праграму з трох частак у межах Звароту да ўрадаў.

Па-першае, толькі краіны, якія адпавядаюць крытэрам Варшаўскай дэклярацыі, мусяць быць уключаныя ў Супольнасьць дэмакратыяў. Па-другое, дапамога ў разьвіцьці павінна прадастаўляцца толькі дэмакратычным урадам, акрамя выпадкаў гуманітарных крызысаў. Дапамога недэмакратычным краінам хутчэй за ўсё будзе прыпыненая, і больш за тое, можа мець нават нэгатыўныя вынікі, паколькі паспрыяе ўтрыманьню аўтарытарных рэжымаў ля ўлады. Сусьветная супольнасьць павінна выкарыстоўваць фінансавыя і палітычныя сродкі для падтрымкі краінаў, якія крочаць да дэмакратыі. Як запісана ў Варшаўскай дэклярацыі, дэмакратычныя краіны мусяць працаваць разам, каб дапамагчы дэмакратыі ў месцах, дзе яна пусьціла карані.

*Пленарная дыскусія па дэмакратыі і разьвіцьці скончылася камэнтарамі і пытаньнямі з аўдыторыі. Пытаньні збольшага датычыліся крытэрыяў, працэсаў і ацэнкі стану дэмакратыі праз прызму магчымасьці ўваходжаньня ў Супольнасьць дэмакратыяў. Таксама была адзначаная неабходнасьць усталяваньня маніторынгу дапамогі для таго, каб прасачыць, што апошнюю атрымалі менавіта тыя, каму яна была патрэбная.*

# атрыманьне АХВЯРАВАНЬНЯЎ

Вольга Смалянка,
ГА “Незалежнае таварыства прававых дасьледаваньняў”
islr@infonet.by

## так можна фармаваць бюджэт паводле беларускага заканадаўства

**Адной з крыніцаў фармаваньня сродкаў і маёмасьці грамадзкага аб’яднаньня ў адпаведнасьці з Законам Рэспублікі Беларусь “Аб грамадзкіх аб’яднаньнях” ад 4 кастрычніка 1994 г. N 3254-XII (са зьменамі і дапаўненьнямі па стане на 22 чэрвеня 2001 г.) зьяўляюцца добраахвотныя ахвяраваньні.**

Згодна з Грамадзянскім Кодэксам краіны, ахвяраваньнем лічыцца дарэньне рэчы (у тым ліку грошай) ці права ў грамадзка карысных мэтах.

Дарэньне заўсёды мае бескарысьлівы характар для таго, хто дорыць. У выпадку ахвяраваньня гэта значыць, напрыклад, што грамадзкае аб’яднаньне ня можа прымаць на сябе абавязак выконваць якія-небудзь паслугі (напрыклад, рэклямныя) ці перадаць у бязвыплатнае карыстаньне частку свайго офіса. Калі такая дамова будзе заключаная, то грашовыя сродкі, атрыманыя ад “ахвяравальніка”, будуць расцэньвацца падатковай інспэкцыяй як выручка ад аказаньня рэклямных паслугаў ці як пазарэалізацыйны даход ад здачы памяшканьня ў арэнду з прымяненьнем адпаведных санкцыяў за ўхіленьне ад выплаты падаткаў.

У адпаведнасьці з Законам Рэспублікі Беларусь “Аб падатках на даходы і прыбытак” ад 22 сьнежня 1991 г. № 1330-XII (са зьменамі і дапаўненьнямі па стане на 8 студзеня 2002 г.) атрыманыя, у тым ліку грамадзкімі аб’яднаньнямі, ад юрыдычных і фізычных асобаў Рэспублікі Беларусь ***бязвыплатныя маёмасьць і грашовыя сродкі***, выкарыстаныя па мэтавым прызначэньні, ***не зьяўляюцца пазарэалізацыйным даходам і, такім чынам, не абкладаюцца падаткам на прыбытак.***

### ПРА ШТО ТРЭБА ПАМЯТАЦЬ

Перш за ўсё пра тое, што пазначаная маёмасьць і грашовыя сродкі, выкарыстаныя не па мэтавым прызначэньні, абкладаюцца падаткам у агульным парадку. Калі мэтавае прызначэньне гэтай маёмасьці і грашовых сродкаў ня вызначанае бокам, які перадае, то яны выкарыстоўваюцца на выкананьне статутных задачаў. Такім чынам, заканадаўца дакладна вызначае, што ахвяраваньні могуць накіроўвацца ня толькі на рэалізацыю статутных мэтаў грамадзкага аб’яднаньня.

Калі ахвяраваньне накіроўваецца не на рэалізацыю статутных мэтаў, то ў плацёжным даручэньні павінна быць дакладна вызначаная мэта, на якую ідзе ахвяраваньне. Напрыклад, на выплату ўзнагароджаньняў (заробку) супрацоўнікам, выплату арэнднай платы і г.д. У большасьці выпадкаў падатковыя інспэкцыі пагаджаюцца з дадзеным пунктам гледжаньня.

Але паколькі правяраць вас будзе ўсё-ткі вашая інспэкцыя, раім схадзіць туды на кансультацыю, папярэдне ўзброіўшыся адпаведнымі ведамі.

Грамадзкае аб’яднаньне, якое прымае ахвяраваньне, для выкарыстаньня якога ўсталяванае вызначанае прызначэньне, павінна весьці адасоблены ўлік усіх апэрацыяў па выкарыстаньні ахвяраванай маёмасьці.

Грашовыя ахвяраваньні могуць быць перададзеныя фізычнымі асобамі на адкрыты грамадзкім аб’яднаньнем бягучы рахунак у банку ў беларускіх рублях. Таксама яны могуць быць перададзеныя ў касу ГА (у гэтым выпадку рэкамэндуем складаць акт прыёму ахвяраваньняў ад канкрэтнай асобы)[1] .

Юрыдычныя асобы могуць пералічваць ахвяраваньні па безнаяўным разьліку.

У тым выпадку, калі ахвяраваньне перадаецца ў натуральнай форме альбо калі ахвяраваньне ў грашовай форме перадаецца для выкарыстаньня па розных прызначэньнях (напрыклад, частка — для аплаты арэнды, частка — для правядзеньня мерапрыемства і г.д.), раім вам заключаць дамову ахвяраваньня. Узор дамовы ахвяраваньня глядзіце ў Дадатку.

Не забывайцеся, што перадача маёмасьці па дамове ахвяраваньня мусіць быць належным чынам афармленая — складаецца акт прыёму-перадачы маёмасьці.

Калі ж па гэтай дамове перадаецца грашовае ахвяраваньне для выкарыстаньня па розных прызначэньнях, рэкамэндуем да дамовы ахвяраваньня зрабіць дадатак, які будзе неад’емнай часткай дамовы і ў якім будзе пазначацца, якая сума выдаткоўваецца на пэўныя патрэбы.

### ЯК АКУМУЛЯВАЦЬ ГРАШОВЫЯ СРОДКІ?

Для акумуляваньня грашовых сродкаў грамадзкае аб’яднаньне можа адкрыць у банку дабрачынны рахунак[2] . Гэта можна зрабіць для збору, захаваньня і выкарыстаньня грашовых сродкаў, якія паступаюць у выглядзе бязвыплатнай дапамогі ці ахвяраваньняў з мэтай правядзеньня дабрачынных акцыяў, для лячэньня грамадзянаў, будаўніцтва аб’ектаў рознага прызначэньня, рамонту, рэканструкцыі будынкаў, якія ўяўляюць сабой гістарычную ці культурную каштоўнасьць, правядзеньня экалагічных і іншых сацыяльна значных мерапрыемстваў. Рахунак можна адкрываць як у беларускіх рублях, так і ў замежных валютах.

Адкрыцьцё ў банку рахунку арганізацыі для збору сродкаў, прызначаных для дабрачынных мэтаў, адбываецца на падставе наступных дакумэнтаў:

1. Заява на адкрыцьцё рахунку, у якой пазначаецца мэта адкрыцьця і тэрмін дзеяньня рахунку, парадак выкарыстаньня сродкаў (накірунак, вяртаньне нявыкарыстанай сумы).

2. Дакумэнт, што пацьвярджае неабходнасьць збору сродкаў:



— на лячэньне грамадзянаў — заключэньне, выдадзенае Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, падпісанае кіраўніком міністэрства, галоўным бухгальтарам і засьведчанае гербавай пячаткай;

— на правядзеньне іншых дабрачынных мерапрыемстваў — хадайніцтва адпаведнага зацікаўленага органа (фонду), падпісанае кіраўніком і галоўным бухгальтарам і засьведчанае пячаткай дадзенага органа (фонду). Не патрабуецца прадстаўленьня хадайніцтва пры атрыманьні замежнай бязвыплатнай дапамогі.

3. Копіі пасьведчаньня аб рэгістрацыі (павінна быць засьведчана натарыяльна ці рэгіструючым органам).

4. Копіі статуту, засьведчанага натарыяльна ці рэгіструючым органам.

5. Дублікат паведамленьня аб прысваеньні УНП.

6. Даведка органаў Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь аб рэгістрацыі ў якасьці плацельшчыка абавязковых страхавых унёскаў і іншых плацяжоў у органах Фонду (далей — даведка Фонду).

7. Картка з узорамі подпісаў і адбітку пячаткі службовых асобаў арганізацыяў, што маюць права распараджацца рахункам, сапраўднасьць якіх засьведчаная натарыяльна ці вышэйстаячым органам.

Арганізацыйныя структуры грамадзкіх аб’яднаньняў, якія дзейнічаюць на падставе статуту рэспубліканскай арганізацыі, пры адкрыцьці рахункаў прадстаўляюць у банк дакумэнты, пазначаныя ў пунктах 5, 6, 7, і копію статуту, засьведчаную натарыяльна ці вышэйстаячай арганізацыяй, а таксама копію пасьведчаньня аб пастаноўцы на ўлік арганізацыйнай структуры.

Пры закрыцьці дабрачыннага рахунку рэшткі сродкаў пералічваюцца ва ўстанову банку на рахунак яго ўладальніка ці выдаткоўваюцца на мэты згодна з указаньнямі аб парадку выкарыстаньня сродкаў, выкладзенымі ў заяве на адкрыцьцё дадзенага рахунку.

Грамадзяне і прадпрыемствы могуць самастойна пералічваць грошы на гэты рахунак.

Пры атрыманьні бязвыплатнай дапамогі, якая прадастаўляецца замежнымі дзяржавамі, міжнароднымі арганізацыямі, замежнымі арганізацыямі і грамадзянамі, а таксама асобамі без грамадзянства і ананімнымі ахвяравальнікамі, за выключэньнем бязвыплатнай дапамогі, што прадастаўляецца па праектах і праграмах, ухваленых Прэзыдэнтам ці Ўрадам Рэспублікі Беларусь, а таксама ў адпаведнасьці зь міжнароднымі дамовамі Рэспублікі Беларусь, трэба ўлічваць нормы Дэкрэту “Аб некаторых мерах па ўдасканаленьні парадку атрыманьня і выкарыстаньня замежнай бязвыплатнай дапамогі” (са зьменамі і дапаўненьнямі па стане на 4 красавіка 2002 г.); Інструкцыі аб парадку рэгістрацыі, атрыманьня і выкарыстаньня замежнай бязвыплатнай дапамогі, зацьв. Загадам Дэпартамэнту па гуманітарнай дзейнасьці пры Прэзыдэнце Рэспублікі Беларусь ад 12.04.2001 г. № 44-од (са зьменамі і дапаўненьнямі па стане на 30 жніўня 2001 г.).

Такая замежная бязвыплатная дапамога рэгіструецца ў Дэпартамэнце па гуманітарнай дзейнасьці Ўпраўленьня справамі Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. Не падлягае рэгістрацыі ў Дэпартамэнце замежная бязвыплатная дапамога ў выглядзе грашовых сродкаў, тавараў (маёмасьці) у памеры (кошце), які не перавышае 30 мінімальных заработных платаў на месяц, ці ў эквівалентнай суме ў замежнай валюце, прызначаная для выкарыстаньня маламаёмнымі, пэнсіянэрамі, інвалідамі I і II групаў, шматдзетнымі і няпоўнымі сем’ямі, бежанцамі. Не падлягаюць рэгістрацыі грашовыя сродкі, у тым ліку ў замежнай валюце, якія прадастаўляюцца для выкарыстаньня юрыдычнымі асобамі — атрымальнікамі замежнай бязвыплатнай дапамогі ў памеры, які не перавышае 50 мінімальных заработных платаў, ці ў эквівалентнай суме ў замежнай валюце, атрыманыя аднаразова, але ня больш як 1 раз на месяц[3].

**[1] Падрабязна пра выплату грашовых сродкаў на бягучы рахунак і ў касу аб’яднаньняў чытайце ў “Бюлетэні” за жнівень-верасень 2002 году (рубрыка “Кансультацыя”).**

**[2] Парадак адкрыцьця дабрачыннага рахунку ў банку рэгулюецца Правіламі адкрыцьця банкамі рахункаў кліентаў у Рэспубліцы Беларусь, зацьв. Пастановай Праўленьня Нацыянальнага банку Рэспублікі Беларусь ад 28 верасьня 2000 г. № 24.12 (са зьменамі і дапаўненьнямі па стане на 28 жніўня 2002 г.).**

**[3] Аб рэгістрацыі замежнай бязвыплатнай дапамогі чытайце ў наступным нумары “Бюлетэня”.**

**ДОГОВОР ПОЖЕРТВОВАНИЯ**

г. ____________________ “__” _______ 200_ г.

____________________ *(название организации или Ф.И.О. гражданина)*, именуемые в дальнейшем “Жертвователь”, в лице ____________________ *(должность, Ф.И.О.),* действующего на основании Устава, с одной стороны, и Общественное объединение _________, именуемое в дальнейшем “Получатель”, в лице ____________, действующего на основании Устава, с другой стороны, заключили настоящий договор о нижеследующем:

**1. Предмет договора**

1.1. Жертвователь передает, а Получатель принимает в собственность ___________[1], именуемое в дальнейшем “Пожертвование” для использования в целях ______________________[2].

**2. Права и обязанности сторон**

2.1. Жертвователь имеет право:

– осуществлять контроль за использованием Пожертвования по целевому назначению (в соответствии с п. 1.1 настоящего договора);

– присутствовать на мероприятиях, проводимых Получателем в связи с использованием Пожертвования;

– в случае невозможности использования Пожертвования по целевому назначению вследствие изменившихся обстоятельств, письменно разрешить использование Пожертвования на иные цели по ходатайству Получателя;

– в случае использования Получателем Пожертвования не по целевому назначению без письменного согласия на то Жертвователя, требовать отмены Пожертвования в порядке, установленном действующим законодательством.

2.2. Жертвователь обязан:

– передать в собственность Получателя Пожертвование в течение __ дней с момента подписания договора;

– принять итоговый отчет об использовании Пожертвования. (*это не обязательно).*

**2.3. Получатель имеет право:**

– до момента передачи Пожертвования отказаться от него, сообщив Жертвователю о своем решении и его мотивах в письменной форме;

– принять Пожертвование в соответствии с условиями договора;

– в случае невозможности использования Пожертвования по целевому назначению вследствие изменившихся обстоятельств обратиться к Жертвователю с ходатайством об использовании Пожертвования на иные цели.

**2.4. Получатель обязан:**

– использовать Пожертвование по целевому назначению (в соответствии с п. 1.1 настоящего договора) с соблюдением требований действующего законодательства;

– вести обособленный учет всех операций по использованию Пожертвования;

– информировать Жертвователя о проводимых в связи с использованием

---

[1] Вы можаце апісаць маёмасьць ці ў самім тэксьце дамовы, калі яе перадаюць няшмат, ці напісаць: маёмасьць у адпаведнасьці з Дадаткам № 1. Для зручнасьці і магчымасьці ідэнтыфікаваць маёмасьць яе неабходна апісаць падрабязна, напрыклад, калі перадаецца кампутар, то пазначаецца назва фірмы-вытворцы, мадэль, сэрыйны нумар і г.д.

[2] Мэты пазначаюцца канкрэтна.

Пожертвования мероприятиях;

– предоставить итоговый отчет об использовании Пожертвования не позднее одного месяца с момента окончания его использования.

**3. Ответственность сторон.**

3.1. В случае неисполнения предусмотренных настоящим договором обязанностей стороны несут ответственность в порядке, предусмотренном законодательством Республики Беларусь.

3.2. Все споры и разногласия, которые могут возникнуть из настоящего договора или в связи с ним, будут по возможности разрешаться путем переговоров между сторонами. В случае если стороны не придут к соглашению, дело подлежит разрешению в хозяйственном суде.

**4. Срок действия договора**

4.1. Договор вступает в силу с момента его подписания и действует до _________.

4.2. Договор прекращается исполнением сторонами всех обязательств по настоящему договору.

**5. Дополнительные основания**

5.1. Настоящий договор составлен в двух экземплярах, имеющих равную юридическую силу, по одному для каждой из сторон.

5.2. По всем вопросам, не урегулированным настоящим договором, стороны руководствуются положениями действующего законодательства Республики Беларусь.

**6. Реквизиты и подписи сторон**

***Выканаўчае бюро віншуе ўсіх сябраў Асамблеі НДА, партнэрскія арганізацыі і фундацыі з надыходзячымі Калядамі і Новым годам, жадае ўсім шчасьця, прафэсійных посьпехаў у 2003 годзе. Нам было прыемна працаваць з вамі цягам мінулага году!***

***Асаблівая падзяка арганізацыям:***

*ABA/CEELI*
*"АСДЭМО" (Гомель)*
*Альянс партнэрства Каўнтэрпарт*
*Беларуская асацыяцыя журналістаў*
*Баранавіцкае аддзяленьне БелАДДІіМІ*
*"Верас" (Віцебск)*
*"ВІТ" (Горадня)*
*"Гарт" (Гомель)*
*"Грамадзянскія ініцыятывы" (Гомель)*
*"Дыярыуш" (Менск)*
*"Кола сяброў" (Магілёў)*
*"Культурны кантакт" (Менск)*
*"Маладая Грамада" (Горадня)*
*"Незалежнае таварыства прававых дасьледаваньняў" (Менск)*
*"Новая зямля" (Магілёў)*
*"Подснежник" (Мачулішчы)*
*ПЦ "Вясна" (Берасьце)*
*"Прававая дапамога насельніцтву" (Менск)*
*"Прававая ініцыятыва" (Менск)*
*"Сьлед Чарнобыля" (Гомель)*
*"Таварыства беларускай мовы ім.Ф.Скарыны"*
*"Трэці сэктар" (Горадня)*
*"Цэнтар сацыяльных інавацыяў" (Менск)*
*"Цэнтар Філона Кміты" (Ворша)*
*Фонд "Наша Вежа" (Берасьце)*

***і асабіста:***

*Арэшку Вацлаву, Верамейчык Галіне, Гаўдзіс Сьвятлане, Гаўрусіку Зьмітру, Дрыгайлу Зьмітру, Жыхар Ірыне, Звоскаву Барысу, Клімчук Натальлі, Колчыну Аляксею, Кос Але, Кручыніну Сяргею, Лабковічу Ўладзімеру, Лапіцкаму Аляксею, Масюку Алесю, Мацкевічу Сяргею, Пашавалавай Тацяне, Рудніку Вітаўту, Смалянцы Вользе, Сьцяпанаву Юрасю, Танкачовай Алене, Шастаковай Вользе Шутко Ларысе*